ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 29 (2587)

23 ліпеня 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 2000 рублёў.

НАШЫ ГАРАДЫ

## «...ЁСЦЬ ДЗЕСЬ БУДА-КАШАЛЁВА», або ПАДАРОЖЖА Ў МАЛЕНСТВА

За свае 43 гады я пабываў у многіх гарадах, у тым ліку і за мяжой. І ўсё ж першае сутыкненне з таямнічым гарадскім светам, якое адбылося ў маленстве, пакінула асаблівае ўражанне. Няхай сабе гэты горад і мала чым адрозніваўся ад маёй роднай вёскі — хіба што заасфальтаванымі вуліцамі, цаглянымі шматкватэрнымі дамамі ў два-тры паверхі ды крамамі, наведванне якіх для нас, дзяцей, у параўнанні са знаёмай ужо і небагатай на прысмакі вясковай крамай нагадвала захапляючую экскурсію.

Гарадское жыццё мне ўпершыню адкрылася ў Буда-Кашалёве. Як жа хацелася пазней, калі школьнікам чытаў кнігі па гісторыі Беларусі, у шэрагу такіх старажытных гарадоў як Полацк, Наваградак, Мсціслаў, Тураў, Нясвіж, знайсці хаця б невялікае ўпамінанне пра мой родны гарадок. Аднак таму дзіцячаму жаданню так і не суджана было збыцца па адной простай прычыне: гісторыя Буда-Кашалёва пачалася намнога пазней.

Да 1861 года тут, сярод лясоў і дрыгвяністых балацявін, тулілася невялічкая вёсачка, якая ўваходзіла тады ў Рагачоўскі павет Магілёўскай губерні. І толькі пасля пракладкі Лібава-Роменскай чыгункі яна пачала шырыцца, а ў 1877 годзе стала чыгуначнай станцыяй. Менавіта з яе і бярэ пачатак Буда-Кашалёва — цяперашні раённы цэнтр Гомельскай вобласці, якому 27 гадоў таму нададзены статус горада.

120 гадоў — гэта, па сутнасці, жыццё двух пакаленняў. Аж не верыцца, што мой прадзед Яўсей памятаў Буда-Кашалёва, калі таго яшчэ ...не было. Шкада, што па малалецтву я не змог у яго пра многае распытаць. І ўсё ж трэцюю частку жыцця 120-гадовага Буда-Кашалёва я пражыў разам з ім.

Калі памяць вяртае мяне ў салодкія часы маленства, то перш-наперш згадваецца невялікі цяністы скверык побач з чыгуначнай станцыяй, дзе мы з матуляй звычайна бавілі час у чаканні



**НА ЗДЫМКУ:** ля помніка воінам-афганцам Зінаіда Антонаўна, маці загінуўшага капітана Сяргея АЛДАНАВА.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

БІБЛІЯТЭКА МІХАСЯ МЯЛЕШКІ

## ЧАС ЗБІРАЦЬ КНІГІ

Перад маімі вачыма першы ў Рэспубліцы Беларусь зводны каталог асабістага кнігазбору "Бібліятэка Міхася Мялешкі" (Мн., 1998). Здзівіцца нехта: што яшчэ за зводны каталог такі? Тлумачу для не вельмі дасведчанага ў мудрагелістых бібліятэчных тэрмінах чытача. Выданне гэтае ўтрымлівае пералік кніг, часопісаў і газет, што належалі некалі вядомаму беларускаму дзеячу і навукоўцу Міхасю Мялешку: па кожным асобніку паказана, дзе ён зараз захоўваецца.

Зноў хтосьці заўважыць з'едліва: маўляў, ну і знайшлася падзея. Так, даражэнькі, адкажу я яму, сапраўды падзея, неардынарная да таго ж. Чаму патрэбныя каталогі асабістых кнігазбораў, якія сёння і не існуюць ужо як адзінае цэлае? Іншымі словамі, навошта адраджаць фантомы? Найперш, гэтага вымагае гістарычная справядлівасць, такім чынам мы аддаём своеасаблівую даніну павагі тым дзеячам, якія паклалі сваё[illegible]ццё на алтар Бацькаўшчыны. [illegible]ругое, кнігазборы ўяўляюць вык[illegible]очную грамадскую і навукова-культурную каштоўнасць. Яны дапамагаюць высвеціць, удакладніць нейкія біяграфічныя факты і звесткі (па маргіналіях, дароўных надпісах і да т. п.) пра іх уладальніка[illegible]едчаць пра эпоху, даўнейшыя[illegible]ацкія густы і запатрабаванні, часам проста дапамагаюць напаткаць цікавае, але якое выпала з поля зроку сучаснага чытача выданне. Можа ўзнікнуць і такое пытанне: а чаму менавіта М. Мялешка, яго бібліятэка? Ці не занадта дробная, так бы мовіць, фігура ў гістарычным жыццяпісе Беларусі? І зноў не пагаджуся. Бо ў сузор'і беларускіх адраджэнцаў пачатку XX стагоддзя, перыяду беларусізацыі 20-х гадоў у БССР М. Мялешка заслужана займае пачэснае месца.

Усё на свеце мае сваю логіку. Пэўная логіка ёсць і ў тым, што адны людзі некалі, апантаныя бібліяфільскай жарсцю, збіралі кніжныя багацці ў адно — бібліятэку, кніжню, другія — палілі, рабавалі, рассцягвалі па свеце, трэція праз некаторы час аднаўлялі, рэканструявалі знакамітыя ў мінулым кнігазборы. Такі лёс, відаць, генетычна закладзены ў Кнізе як скарбніцы, збіральніцы, акумулятары ведаў. Ведаў злых і добрых, пазітыўных і адмоўных, сонечных і змрочных. Ведаў, якія адны прымаюць, а іншыя — не, таму і змагаюцца з імі і іх носьбітамі-кнігамі як толькі могуць. Але нашая гаворка якраз пра трэцюю катэгорыю людзей — назавём іх умоўна так, — аднаўляльнікі. Дзякуючы ім, аднаўляецца гістарычная памяць народа, абуджаюцца нацыянальная годнасць і гордасць за інтэлектуальную моц сваіх продкаў. Хто ж нашыя аднаўляльнікі ў даным выпадку? Выйшаў зводны каталог у серыі "Вернутыя з небыцця", якая з 1996 года выдаецца Беларускім навукова-даследчым інстытутам дакументазнаўства і архіўнай справы. Падрыхтавалі выданне В. Скалабан (кіраўнік), А. Гесь, Т. Седлярэвіч, А. Філіпава. Што ж, чэсць вам, шаноўныя аднаўляльнікі.

Колькі слоў пра асобу М. Мялешкі. У прадмове В. Скалабан зазначае, што "таленавіты гісторык і архівіст ... выявіў сябе таксама як апантаны этнограф, краязнавец і самабытны пісьменнік". Так, ён быў прафесіянал. Бо скончыў у

(Заканчэнне на 7-й стар.).

НАШ ЗЯМЛЯК, МАСТАК З ФЕАДОСІІ, ПРЫВЁЗ СВАЕ АКВАРЭЛІ Ў МІНСК НА ВЫСТАВУ

## СТАРЫЯ ПЛАЧУЦЬ, КАЛІ ЧУЮЦЬ АПОВЯД ПРА БЕЛАРУСЬ

У музеі выяўленчага мастацтва адкрылася выстава акварэляў выхадца з Беларусі Уладзіміра Кіркевіча, які цяпер жыве ў Феадосіі. Ён удзельнік больш за 100 выстаў. Гэтая ж праходзіць у год яго 60-годдзя і стала спраўджаннем даўняй мары мастака — паказаць свае работы мінчанам. Дагэтуль Уладзімір Кіркевіч выстаўляўся ў 1996 годзе ў Віцебску падчас фестывалю "Славянскі базар", летась — у Пінску.

Пінск, дарэчы — яго радзіма. Там ён вучыўся жывапісу ў мастака-акварэліста Яўгена Пулхава. Пасля заканчэння гідрамеліярацыйнага тэхнікума Уладзімір Кіркевіч паехаў на будаўніцтва Паўночна-Крымскага канала, дзе працаваў 20 гадоў. Сёння ён сумна ўсміхаецца і кажа: тады ніхто не думаў, што калісьці з'явіцца туга па радзіме. У маладосці ўсё здавалася лягчэйшым і прасцейшым. Зараз жа, лічыць Уладзімір Міхайлавіч, каб зразумець, што такое жыць удалечыні ад радзімы, трэба там пражыць, як ён, 40 гадоў. Здаецца, Украіна і знаходзіцца недалёка, але ж гэта ўжо іншая краіна. Сёння ж для большасці сталых людзей даехаць да Беларусі — не толькі праблема далёкай адлегласці, але і матэрыяльная. Пенсіі ледзь хапае на жыццё. Яна, дарэчы, нават меншая, чым на Беларусі, — 18—30 долараў ЗША. Тут ужо не да вандровак. Тут выжыць бы. Уладзімір Кіркевіч, каб прыехаць у Мінск, прадаў у Феадосіі (нашаму земляку, дарэчы) некалькі сваіх акварэляў.

Уладзімір Міхайлавіч гаворыць, што, калі ён расказвае пра свае паездкі на Беларусь старым людзям, яны плачуць. Там нарасхват ідуць беларускія газеты. Інфармацыі з радзімы не хапае. Дарэчы, на 100 тысяч жыхароў Феадосіі — 2,5 тысячы беларусаў. Многія з іх актыўна наведваюць беларускае таварыства. Чытаюць там газеты, нават лісты ад сваякоў чытаюць. Людзям такія сустрэчы прыносяць радасць, саграваюць душу.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Касцёл Святых Сымона і Алены (Чырвоны касцёл) у Мінску. Сёлета спаўняецца 90 гадоў з часу яго пабудовы.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

ЗАЯВА МЗС

## АБ РАДЫЁ «СВАБОДНАЯ БЕЛАРУСЬ»

**Апошнім часам шэраг польскіх газет распаўсюдзіў інфармацыю аб тым, што восенню пачне працаваць "Радыё Свабодная Беларусь", дзейнасць якога будзе фінансавацца са сродкаў, выдзеленых урадам ЗША і Еўрапейскім саюзам. У публікацыі "Газеты Выбарчай" за 13 ліпеня "Свабода з Польшчы" зроблена спроба ўвязаць прыняцце рашэння аб пачатку работы гэтай радыёстанцыі з так званымі "рэпрэсіямі беларускага ўрада ў адносінах да заходніх дыпламатаў у Мінску". Акрамя таго, у публікацыях прыводзяцца словы саветніка прэм'ер-міністра Польшчы па пытаннях знешняй палітыкі пана Навакоўскага, які фактычна заявіў аб пазітыўных адносінах польскага ўрада да рашэння аб адкрыцці "Радыё Свабодная Беларусь" і выкарыстання для вяшчання на суседнюю дзяржаву перадаючых устройстваў "Польскага Радыё" ў Беластоку.**

**У сувязі з гэтым МЗС Беларусі прыняло заяву, у якой адзначаецца, што "такім чынам, размова ідзе аб публічнай дэманстрацыі намеру выкарыстаць атмасферу, якая штучна нагнятаецца вакол так званай праблемы "Драздоў", для аказання прамога інфармацыйна-прапагандысцкага націску на Рэспубліку Беларусь".**

**"Гэтыя дзеянні яўна дысаніруюць з узважанай заявай Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Польшча ад 13 ліпеня 1998 года, у якой выкладаецца пазіцыя Польшчы ў сувязі з рашэннем Еўрапейскага саюза аб візавых абмежаваннях у адносінах да Беларусі", — гаворыцца ў заяве.**

**Міністэрства замежных спраў Беларусі заяўляе, што рашэнне аб адкрыцці "Радыё Свабодная Беларусь" на тэрыторыі Польшчы не будзе садзейнічаць развіццю традыцыйна добрасуседскіх беларуска-польскіх адносін, заснаваных на прынцыпах узаемнай павагі, незалежнасці, суверэнітэту і неўмяшання ва ўнутраныя справы адна адной.**

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

## МАЕМ ГОЛАС У МАП

**Рэспубліка Беларусь аднавіла права голасу ў Міжнароднай арганізацыі працы (МАП), якога яна была пазбаўлена з-за запазычанасці па ўзносах у 1996 годзе, — такім аказаўся галоўны вынік удзелу дэлегацыі нашай краіны на чале з міністрам працы Іванам Ляхам у 86-й сесіі Міжнароднай канферэнцыі працы, што завяршылася днямі ў Жэневе.**

**Хадайніцтва беларускай дэлегацыі перад Фінансавым камітэтам канферэнцыі аб аднаўленні права голасу на пэўных умовах было падтрымана ўрадавымі дэлегацыямі Вялікабрытаніі, Нідэрландаў і Славакіі.**

100-МІЛЬЁННАЯ ТОНА НАФТЫ





**Здабыць яе імкнуцца ў гэтым годзе нафтавікі Беларусі. За больш чым трыццаць гадоў эксплуатацыі Рэчыцкага нафтавага радовішча тут прабураны сотні нафтавых шчылін, штогод здабываецца па два і больш мільёнаў тон нафты. А буравыя ідуць усё далей. Спецыялісты ўпраўлення прамыслова-геафізічных работ аб'яднання "Беларуснафта" знаходзяць новыя пласты.**

**НА ЗДЫМКАХ: вопытны работнік геафізік Мікалай ДУБРОЎСКІ; пераехаць да новай шчыліны буравой вышцы дапамагаюць дванаццаць магутных трактароў.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

У АДПАВЕДНАСЦІ З КАНВЕНЦЫЯЙ

## «ЗАМЕЖНЫ ПАШПАРТ» ДЛЯ ЖЫВЁЛЫ

**У адпаведнасці з Канвенцыяй СІТЭС, якая датычыць міжнароднага гандлю ў сферы дзікай фауны і флоры, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя зацвердзіла парадак выдачы дазволу на перамяшчэнне жывёл і раслін праз беларускую граніцу.**

**Паводле інфармацыі, атрыманай у Мінпрыроды, дзеянне гэтага дакумента распаўсюджваецца на ўсіх фізічных і юрыдычных асоб, незалежна ад форм уласнасці. Для атрымання адпаведнага дазволу грамадзяне павінны звяртацца ў Мінпрыроды, якое ў адпаведнасці з міжнароднай канвенцыяй з'яўляецца адміністрацыйным органам СІТЕС у Беларусі. Як правіла, дазвол выдаецца на падставе заключэння Нацыянальнай акадэміі навук. Кожны дазвол сапраўдны толькі на ўказаны ў ім перыяд, а ў выпадку яго страты дублікат не выдаецца і патрэбна афармленне новага дакумента. У выпадку адмовы ў атрыманні дазволу заяўнік можа абскардзіць гэта рашэнне ва ўстаноўленым парадку.**

ВЫНАХОДНІКУ ТРАМВАЯ




**Бюст вынаходніку электрычнага трамвая Фёдару Піроцкаму адкрыты ў Віцебску. У 1880 годзе ён пабудаваў і выпрабаваў "рэйкавы экіпаж з электрарухавіком", да гэтага трамвайныя вагоны цягалі паравым рухавіком ці конямі. Віцебскія трамвайшчыкі не забылі стваральніка прататыпа іх віду транспарту і адзначылі 100 год з дня смерці вынаходніка, устанавіўшы яму помнік.**

**НА ЗДЫМКУ: бюст Фёдару ПІРОЦКАМУ ў Віцебску.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

ТЭАЛОГІЯ

## ПЕРШЫЯ БАГАСЛОВЫ

**Ва ўрачыстай абстаноўцы першы ў СНД факультэт тэалогіі імя святых Мяфодзія і Кірыла Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта віншаваў сваіх першых выпускнікоў. А ўручыў дыпломы дзяржаўнага ўзору па спецыяльнасці "тэалогія" дэкан факультэта Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт.**

**Разам з багаслоўскай адукацыяй выпускнікі-тэолагі атрымалі добрую падрыхтоўку ў галіне філасофіі, псіхалогіі, педагогікі, гісторыі і лінгвістыкі.**

НА МЯЖЫ

## ЕЗДЗІЦЬ СТАЛІ БОЛЬШ!

**У першым паўгоддзі 1998 года праз дзяржаўную мяжу Беларусі было прапушчана каля 9 мільёнаў чалавек і больш за 2,5 мільёна адзінак транспартных сродкаў, у тым ліку больш як 46 тысяч паяздоў і больш як 3 тысячы паветраных суднаў.**

**У першым паўгоддзі беларускія пагранічнікі затрымалі больш за паўтары тысячы парушальнікаў мяжы. З іх на тэрыторыю рэспублікі спрабавалі нелегальна трапіць каля 500 чалавек. Больш за 30 працэнтаў ад агульнай колькасці затрыманых — прадстаўнікі дзяржаў Афрыкі і Азіі.**

**Пагранічнікамі было спынена каля 600 спроб кантрабанднага перамяшчэння праз дзяржаўную мяжу валюты і матэрыяльных каштоўнасцяў на агульную суму каля 30 мільярдаў рублёў, у тым ліку 65 тысяч долараў ЗША, 6,5 тысячы нямецкіх марак і 72 тысячы дэнамінаваных расійскіх рублёў. Затрымана каля 3 кілаграмаў розных наркатычных сродкаў і 26 адзінак халоднай і агнястрэльнай зброі.**

СТЫХІЯ НЕ ЎТАЙМОЎВАЕЦЦА

## УРАГАН НАД УЗНАЦКАМ

**У выніку ўрагану, які пранёсся 11 ліпеня над Крупскім раёнам (Мінская вобласць), пацярпеў адзін чалавек і раёну нанесены значны матэрыяльны ўрон. Пацярпела 47-гадовая цялятніца з вёскі Узнацк Ігрушкаўскага сельсавета. Смерч пранёс жанчыну па паветры прыкладна дзесяць метраў і кінуў яе вобзем.**

**Пацярпелая шпіталізавана і знаходзіцца ў рэанімацыі са шматлікімі пераломамі і страсеннем мазгоў.**

**У вёсках Узнац, Узнацк і ў цэнтры сельсавета Хацюхова сарваны дахі з 24 дамоў і дзвюх малочнатаварных фермаў, з механічнай майстэрні і шматлікіх гаражоў, разбураны склад матэрыяльна-тэхнічных сродкаў і два цялятнікі. Пашкоджана таксама два кіламетры лініі электраперадачы і парушана тэлефонная сувязь.**

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

АМАЛЬ ШТО 1 МІЛЬЁН тон грузаў з пачатку 1998 года даставілі сваім спажыўцам беларускія рачнікі. У першым паўгоддзі аб'ём грузаперавозак па водных шляхах Беларусі вырас на 38 працэнтаў. Усяго ж у галіновай транспартнай структуры доля рачнікоў не перавышае 2 працэнтаў.

У АСТРАЎЦЫ, дзе праваслаўныя складаюць толькі пятую частку насельніцтва раёна, пабудавана першая царква. Будавалі ўсе — збіраліся ахвяраванні ад вернікаў, дапамагалі калгасы, арганізацыі, райвыканком.

БОЛЬШ 200 МІЛЬЯРДАЎ рублёў завінаваціліся сваім работнікам прадпрыемствы і арганізацыі Брэста і вобласці. Людзі працяглы час не атрымліваюць заработнай платы. 76 працэнтаў нявыплачаных сум прыпадае на калгасы і саўгасы.

ВЫТВОРЧАЕ АБ'ЯДНАННЕ "Мінскі трактарны завод" пачало адгрузку трактароў у Ірак. 500 трактароў МТЗ-800 з тэнтам-каркасам на базе малой кабіны будуць пастаўлены ў Ірак праз порт Рыгу.

РАШЭННЕМ УРАДА КРАІНЫ Беларускі гуманітарны ліцэй пératвораны ў Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа.

СОРАК ЗЕРНЕЎБОРАЧНЫХ КАМБАЙНАЎ маркі МДВ нямецкай вытворчасці будуць пастаўлены сельскагаспадарчым прадпрыемствам Беларусі на аснове доўгатэрміновай арэнды.

ДОМ-МУЗЕЙ ВЯДОМАГА савецкага кінаакцёра Пятра Алейнікава адкрыўся на яго радзіме — у вёсцы Крывель Шклоўскага раёна. П. Алейнікаў стварыў яркія вобразы сваіх сучаснікаў у фільмах 30—40-х гадоў — "Трактарысты", "Сямёра смелых", "Камсамольск" і іншых.

МАЛАДЫ СПЕЦЫЯЛІСТ



**Пасля заканчэння Палескага саўгаса-тэхнікума Мікалай Русакоў працуе галоўным заатэхнікам саўгаса "Капаткевічы" Петрыкаўскага раёна. Клопату маладому спецыялісту хапае, бо ў гаспадарцы больш чым дзве тысячы галоў буйной рагатай жывёлы і 800 свіней. Мікалай працягвае павышаць сваю кваліфікацыю і завочна вучыцца ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.**

**НА ЗДЫМКУ: Мікалай РУСАКОЎ з работнікам фермы Сцяпанам КІЛІМІЧЭНКАМ.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

ПЕРШЫЯ ЭКСПАНАТЫ

# ЯКІМ БУДЗЕ МУЗЕЙ ГУЛЬНІ І ЦАЦКІ?

Відаць, не трэба пераконваць нікога ў тым, што роля музея ў працэсе выхавання і адукацыі вельмі значная. Ён усведамляецца як унікальная форма захавання культурных традыцый, шматграннага культурнага вопыту ў яго гістарычных, філасофскіх, эстэтычных і іншых аспектах. Музей, які захоўвае мастацкія і іншыя каштоўнасці, з'яўляецца неацэнным матэрыялам у адукацыйна-выхаваўчым працэсе, дзейсным сродкам развіцця візуальнай, эмацыянальнай і агульнай культуры дзяцей, пачынаючы з дзіцячага сада. У музеі дзеці набываюць навыкі развітага візуальнага мыслення, выпрацоўкі самастойных меркаванняў, творчых адносін да навакольнага свету, асэнсавання культурных дасягненняў грамадства. Ажыццяўляецца гэта праз зносіны з арыгіналам, бо музей гістарычна склаўся як калекцыя арыгінальных твораў. Гэта значыць, што менавіта арыгіналы знаходзяцца ў цэнтры педагагічнага працэсу, што прынцыпова адрознівае музей ад іншых інстытутаў адукацыі і вызначае спецыфіку яго работы.

Усё гэта ў поўнай меры стасуецца і да Нацыянальнага педагагічнага музея гульні і цацкі, што ствараецца пры Беларускім навукова-метадычным цэнтры гульні і цацкі. Такія музеі ўжо маюцца ў некаторых краінах — Германіі, Венгрыі, Расіі, станоўчы вопыт якіх пажадана было б выкарыстаць і пры стварэнні адпаведнага музея ў Беларусі. А такі вопыт нам патрэбны, бо вельмі складаныя і адказныя задачы стаяць перад стваральнікамі музея — збор, класіфікацыя, вывучэнне і прапаганда як традыцыйных гульняў і цацак, так і лепшых узораў айчыннай і замежнай прамысловасці.

Першымі экспанатамі нашага музея сталі археалагічныя цацкі — гліняная свістулька "качка", дзіцячая скарбонка XVII—XVIII стагоддзяў, знойдзеныя пры раскопках Мінска і падараваныя музею вядомым беларускім археолагам Г. Штыхавым. Цікава, што гэтыя старажытныя цацкі амаль не адрозніваюцца ад вырабаў сучасных народных майстроў, таксама прадстаўленых у экспазіцыі. Гэта тыя ж гліняныя свістулькі — качкі, конікі, птушкі, бараны, лялькі і інш. Маляўнічыя, вобразныя, дасканалыя па пластыцы і трапнасці характарыстык, яны ўздзейнічаюць на дзяцей глыбока і актыўна, выклікаюць у іх станоўчыя эмоцыі. Яркія, эмацыянальныя гэтыя цацкі ніколі не ўвасабляюць адмоўных персанажаў, яны нясуць толькі добры пачатак, абуджаюць толькі добрыя пачуцці. Калі глядзець на іх, міжволі напрошваецца параўнанне з некаторымі замежнымі цацкамі, няхай з той жа лялькай Барбі. У гэтай сувязі прыгадваецца адзін са спектакляў польскага лялечнага тэатра пра Барбі і Кэна. Лялькі ў спектаклі вельмі прыгожыя, модна і з густам апранутыя, але надта фанабэрлівыя, няветлівыя і напышлівыя. Іх купіла небагатая сарамлівая дзяўчынка і спрабуе завяваць любоў дарагіх лялек. Што яна толькі ні робіць, але ўсё дарэмна. Лялькі застаюцца чэрствымі, пакуль дзяўчынка не аддае ім сваё сэрца. Але і сама пасля гэтага робіцца злой і неміласэрнай. Метамарфоза невыпадковая: стандартызаваныя гульні і цацкі разбураюць душу чалавека.

У музеі прадстаўлена, акрамя глінянай, цікавая і разнастайная драўляная цацка. Яна была шырока распаўсюджанай у мінулым, на сённяшні дзень толькі некаторыя майстры займаюцца вырабам драўлянай цацкі. Адзін з іх — В. Паўтаржыцкі. Яго цацкі-забаўкі "Мужык і мядзведзь", "Рыбаловы", "Гімнаст" і іншыя з найпрасцейшымі элементамі руху заўсёды выклікаюць цёплую ўсмешку не толькі ў дзяцей, але і ў дарослых.

Драўляныя распісныя куфэркі цацкамі назваць можна толькі ўмоўна, але тым не менш яны занялі пачэснае месца ў экспазіцыі музея. Яны розныя па памерах, устаўляюцца адзін у адзін накшталт матрошкі. Усе куфэркі ўпрыгожаны роспісам — агоўскім, чачэрскім, лідскім, гродзенскім і інш. і таму з'яўляюцца неацэнным матэрыялам для знаёмства дзяцей з беларускім народным мастацтвам. Працягам знаёмства з традыцыйнай народнай культурай з'явіцца і гульнявая каляндарна-абрадавая атрыбутыка, якая будзе прадстаўлена ва ўсёй сваёй разнастайнасці і шматграннасці. Гэта і калядныя зоркі, маскі мядзведзя, казы, бусла і іншых калядных персанажаў, абрадавае печыва для веснавых каляндарных свят у выглядзе "жаўранкаў", бусловых лап, розных сельскагаспадарчых прылад працы, распісныя велікодныя яйкі (пісанкі, маляванкі, крашанкі) і інш.

Улічваючы вялікую ролю тэатра ў эстэтычным выхаванні дзяцей, фарміраванні іх творчых здольнасцей, у музеі ствараецца і аддзел лялечных тэатраў. Тут і тэатр ценяў, і тэатр лялечнай эстрады, і пальчыкавы, і пальчатковы, і марыянетак, і інш. Сярод іх значнае месца займае народны лялечны тэатр "батлейка", вядомы ў Беларусі з XVI стагоддзя. У музеі можна бачыць аднаярусныя, а таксама двухярусныя батлейкі магілёўскага і ельнінскага тыпаў. Яны цудоўна аздоблены майстрамі і мастакамі цэнтра, такімі, як Н. Лось, М. Анціпкіна, А. Багдан. У афармленні батлеек шырока выкарыстаны розныя віды беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — выцінанка, роспіс, аплікацыя тканінай, саломкай, пляценне з саломкі. Сапраўдным упрыгажэннем экспазіцыі з'яўляецца батлейка, афармленая народным майстрам Н. Лось. На створках — мудрагелістая пляценне буйныя разеткі, дакладна такія, як на саламяных царскіх варотах XVIII стагоддзя, якія экспануюцца ў Раўбіцкім музеі. Лялькі для батлеек ствараюць майстры М. і А. Сярэбранікавы. Усе лялькі выразаны з дрэва і апрануты ў розныя касцюмы. Тут і біблейскія персанажы ў каронах, мантыях, доўгіх хітонах і плашчах, і героі народных інтэрмедый у тагачасных касцюмах, і казачныя персанажы — героі беларускіх народных казак у сялянскім адзенні. Прычым, калі тварь трохі абагульненыя, то касцюм, атрыбуты, аксесуары дадзены вельмі падрабязна, часам нават дэталізавана, што робіць вобразы больш выразнымі і па-мастацку дакладнымі.

У экспазіцыі гледачы могуць пазнаёміцца не толькі з лялечнымі тэатрамі і іх персанажамі, але і з кларытнымі героямі першых беларускамоўных мультфільмаў "Асцярожна, карасі" і "Ліса, мужык і мядзведзь", створанымі калектывам аўтараў. Выкананыя з самых разнастайных матэрыялаў (стадонт, дрэва, латэкс, метал, футра, тэкстыль), гэтыя персанажы надзвычай выразныя, уражваюць дакладнасцю і трапнасцю характарыстык, багаццем вобразных рашэнняў.

І, нарэшце, у музеі фарміруецца калекцыя сучаснай прамысловай цацкі. Тут і мякканабіўныя цацкі гомельскай фабрыкі "Вясёлка", магілёўскай фірмы "Вавілен", металічная, надзіманая з плёнкі ЦХВ цацка фабрыкі "Ігрaмет", драўляная цацка баранавіцкай фабрыкі "Брыг", пластмасавая — ЗАТ "Корпак" (Мінск) і шмат чаго іншага.

Пры музеі плануецца стварыць таксама і гульнёвы пакой, бо вядома, што менавіта ў гульні дзеці найбольш трывала і хутка засвойваюць самыя розныя веды, развіваюцца духоўна і фізічна.

**Ала ЛЯВОНАВА.**

# «...ЁСЦЬ ДЗЕСЬ БУДА-КАШАЛЁВА», або ПАДАРОЖЖА Ў МАЛЕНСТВА





**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

цягніка на нашу Патапаўку, і, вядома ж, сціплы станцыйны буфет, у якім прадаваліся смачныя піражкі і любімае намі марожанае. Перад вачыма гэтаксама і музыкант Грыня, які штодня, у любое надвор'е, сустракаў на пероне пасажыраў задушэўнай ігрой на балалайцы. І гукі яе — то вясёлыя, то тужлівыя — былі нязменным атрыбутам тагачаснага прывакзальнага жыцця Буда-Кашалёва.

А колькі радасці было ў нас, малечы, калі траплялі на мясцовы рынак! Хаця ў бацькі меўся неблагі і свой сад, аднак яблыкі і грушы, прыгожа раскладзеныя вясковымі кабетамі на доўгіх рынкавых сталах, нам з сястрой Галяй здаваліся асабліва смачнымі. Увесь гэты гандаль ішоў пад няспыннае курынае кудахканне і парасячы віск. Часам маці з бацькам бралі нас з сабой, калі ехалі па парасё. Цікава было назіраць, як яны, пераходзячы ад воза да воза, аглядвалі жывы тавар, узнімаючы парася за заднія ногі перад сабой, цікавіліся, адкуль сам гаспадар-гандляр, прасілі таго, каб скінуў нейкі рубельда. А наўкруг так водарна пахла свежым сенам з воза. Такі самы пах у Мінску я зведаў хіба што аднойчы, калі завітаў на Старажоўку, якую тады яшчэ не знеслі.



Незабыўнае ўражанне пакідала заўсёды і царква з яе блішчастымі купаламі. Яна стаяла крыху ўзбоч, па дарозе да чыгуначнага пераезда, але, калі выпадала праходзіць міма, сэрца замірала. Нам, падшыванцам, многае тады было няўцям, але ж нейкі няўлоўны боскі дух адразу перапыняў нашы свавольствы, прымушаў рaптоўна суцішыцца. Нас — праўда, і дагэтуль не ведаю, чаму — не вадзілі ў царкву. Затое як мы чакалі на Вялікдзень бабулю Марфу, што хадзіла туды свяціць фарбаваныя яйкі і булкі ўласнай выпечкі, якія ў нас называлі "паскай".



...Многае згадваецца з таго, далёкага, калі праходзіш вуліцамі і ціхімі вулачкамі Буда-Кашалёва сёння. З гадамі маладзее райцэнтр, становіцца больш светлым і прывабным. У большасці драўляныя, там-сям цагляныя двухпавярховыя будынiны горада майго маленства цяпер выцеснілі вышынныя гмахі, шыкоўныя катэджы. Ля чыгуначнай станцыі раскашуе новы універмаг. Будаўнічымі рыштаваннямі абгароджана і сама станцыя: неўзабаве абновіцца і яна. На месцы былой драўлянай царквы, той, дзе некалі мяне хрысцілі, стаіць новая — Свята-Мікалаеўская.

Памятаюць у Буда-Кашалёве і пра сваіх славутых землякоў, якія баранілі Бацькаўшчыну ў вякапомныя гады Вялікай Айчыннай вайны. Двойчы Герой Савецкага Саюза лётчык-ас Павел Галавачоў, віцэ-адмірал Валянцін Дрозд, камандзір дывізіённай групы Герой Савецкага Саюза Эдуард Лаўрыновіч — гэтыя і іншыя імёны ўвекавечаны ў помніках і назвах вуліц.

Першымі ў рэспубліцы будакашалёўцы ўзвялі і абеліск у гонар сваіх землякоў, якія не вярнуліся з афганскай вайны. На мемарыяльнай шыльдзе выбіта восем прозвішчаў: Георгій Шэйка, Генадзь Ігнаценка, Віталь Бандурысты, Генадзь Сідарэнка, Валерый Івашуцін, Сяргей Алданаў, Юрый Чэпікаў, Пётр Маісееў. А вышэй над імі — пранікнёныя словы паэта:

**Пад бомбаў свіст**
**і куль свінцовых**
**Вы згадвалі адно заўсёды,**
**Што ёсць дзесь**
**Буда-Кашалёва,**
**Зямля бацькоў, куток ваш**
**родны.**

Буда-кашалёўцы памятаюць гісторыю свайго горада і, працягваючы традыцыі першапраходцаў, клапоцяцца пра яго дзень сённяшні і будучы.

...А за некалькі кіламетраў ад райцэнтра струменіць з-пад зямлі срэбразвонная крынічка. Услухаешся — раптам адчуваеш: гук нібыта наплывае адтуль, з даўніны. Як напамін нам, сённяшнім, каб ніколі не забывалі пра карані свае. Кім бы ні былі і як бы далёка ні закінуў нас лёс.

**Анатоль ЗЭКАЎ.**

**НА ЗДЫМКАХ: будынак райвыканкома на цэнтральнай плошчы Буда-Кашалёва; у спякотны дзень ля крынічкі; раённы Дом культуры; Свята-Мікалаеўская царква.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

ЦЯЖКІ ШЛЯХ

# НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЕ АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСІ

## II. АДРАДЖЭННЕ, АДБІТАК ХІСТКАСЦІ...

Зноў паўстала пытанне, як узняць культуру народа, як стварыць умовы, якія б спрыялі духоўнаму ўзбагачэнню чалавека, маральнаму росту і ўдасканаленню асобы. Агульнавядома, што вырашэнне пэўных праблем развіцця нацыянальнай культуры немагчымае без вырашэння праблем эканамічных, экалагічных, сацыяльных, палітычных. Без гэтага намаганні, накіраваныя на адраджэнне і развіццё беларускай культуры, жаданага плёну не могуць даць. Таму працэс нацыянальна-культурнага адраджэння ў 80-я — 90-я, як і ў 20-я гады, быў непарыўна звязаны з абнаўленнем усіх сфер жыцця грамадства.

Шлях радыкальных пераўтварэнняў быў абвешчаны красавіцкім (1985 год) пленумам ЦК КПСС і XXVII з'ездам партыі (1986 год) і канкрэтызаваўся ў рашэннях XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі (1988 год), XXVIII з'езда КПСС (1990 год), а таксама ў рашэннях I—V з'ездаў народных дэпутатаў СССР і Вярхоўнага Савета СССР, што адбыліся ў 1989—1991 гадах. Новы палітычны курс перш за ўсё быў скіраваны на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця СССР, у тым ліку і БССР, што было абумоўлена тым складаным сацыяльна-эканамічным становішчам, у якім апынулася краіна на рубяжы 70-х — 80-х гадоў. Такое становішча ўзнікла галоўным чынам з-за таго, што на ўсім працягу існавання савецкай улады ў СССР абсалютызавалася дзяржаўная і каапératыўна-калгасная ўласнасць пры адначасовым аддзяленні, адчужэнні непасрэдных вытворцаў ад сродкаў вытворчасці, а сялян ад зямлі. У канчатковым выніку гэта і прывяло да абязлічвання сродкаў вытворчасці, падрыву асноў матэрыяльнага стымулявання працоўнай дзейнасці грамадзян.

Існуючая камандна-адміністрацыйная сістэма кіравання эканомікай скоўвала ініцыятыву працоўных, не спрыяла павышэнню прэстыжнасці сумленнай працы. Усё больш заяўлялі аб сабе абыякавыя, а нярэдка спажывецкія адносіны да грамадскай уласнасці, чым у значнай меры тлумачыліся нерацыянальнае выкарыстанне матэрыяльных рэсурсаў, крадзеж народнага багацця, марнатраўства і безгаспадарчасць. У выніку тэмпы росту прамысловай вытворчасці і прадукцыйнасці працы зніжаліся. Шмат якія прадпрыемствы працавалі нерытмічна, не спраўляліся з выкананнем заданняў, слаба выкарыстоўвалі дасягненні навуковага прагрэсу і перадавы вопыт.

У грамадстве ўсё больш адчувалася неабходнасць эканамічных рэформ, якія ўнеслі б істотныя змены ў эканоміку краіны, паскорылі тэмпы яе сацыяльна-эканамічнага развіцця, палепшылі ўмовы жыцця працоўных.

Але грамадства хутка пераканалася, што абвешчаны ў 1985 годзе саюзнымі ўладамі палітычны курс на перабудову (паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, удасканаленне сацыялізму, дэмакратызацыю грамадства і г. д.) не быў і не мог быць рэалізаваны на практыцы. Справа ў тым, што ён насіў дэкларатыўны характар і не меў навукова абгрунтаванай канцэпцыі перабудовы. Акрамя таго, радыкальныя пераўтварэнні ў эканоміцы, якія б вялі да рынachных адносін, былі немагчымыя ва ўмовах створанай за гады панавання таталітарнага рэжыму камандна-адміністрацыйнай сістэмы, якая была апорай усіх кансерватыўных сіл, манапалізму дзяржавы ва ўсіх сферах жыцця грамадства, звышцэнтралізаванага кіравання народнай гаспадаркай, бюракратызму. Глыбокія дэмакратычныя пераўтварэнні былі немагчымыя, калі не зламаць устарэлую камандна-адміністрацыйную сістэму кіравання грамадствам і не стварыць умовы для пераходу да рыначных адносін. А зрабіць гэта было вельмі няпроста. Партыйна-дзяржаўная эліта, якая трымала ў руках уладу і кіравала ўсімі сферамі сацыяльна-эканамічнага і палітычнага жыцця, была зацікаўлена ў глыбокіх дэмакратычных пераўтварэннях, бо ў выніку іх яна магла страціць і ўладу, і прывілеі, што забяспечвала ёй пануючая савецкая сістэма.

Акрамя таго, рэзкая змена палітычнага курсу была ўспрынята грамадствам БССР неадназначна. Адна частка насельніцтва падтрымала пераход да рыначных адносін, шматукладнай эканомікі, другая ж паставілася насцярожана, лічачы, што ў рэспубліцы справы ідуць някепска (на гэты час БССР у эканамічных адносінах выглядала значна лепш, чым іншыя рэспублікі) і таму захапляцца перабудовай не трэба.

Усё гэта прывяло да крызісу, у якім у канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў апынулася народная гаспадарка Беларусі. З кожным годам паглыбляючыся, крызіс прывёў да заняпаду сацыяльнай сферы, рэзкага зніжэння ўзроўню жыцця народа. Гэтаму ў значнай меры спрыяў пераход Расіі з пачатку студзеня 1992 года да палітыкі свабодных цэн, іх лібералізацыі, што выклікала выбуховы рост цэн на тавары, гіперінфляцыю, вялікі дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту, далейшы разрыў гаспадарчых сувязей паміж рэспублікамі, значнае падзенне рэальных даходаў насельніцтва, абвальнае зніжэнне ўзроўню і якасці жыцця пераважнай большасці людзей.

Толькі ў 1992 годзе цэны на тавары і паслугі ўзраслі ў 11 разоў, а супраць 1990 года — у 22 разы. Аб'ём продажу тавараў скараціўся за 1992 год на 26 працэнтаў. За два гады, што прайшлі пасля ўвядзення свабодных цэн на многія тавары, у тым ліку і асноўныя прадукты харчавання, яны ўзраслі ў 100 і больш разоў.

Сацыяльнае становішча насельніцтва працягвала пагаршацца і ў далейшым.

Па даных супрацоўнікаў Мінскага НДІ сацыяльна-эканамічных і палітычных праблем, якія правялі ў сакавіку 1995 года даследаванне грамадска-палітычнай сітуацыі і змянення масавай свядомасці розных груп насельніцтва беларускай сталіцы, сваёй матэрыяльнай забяспечанасцю былі задаволены толькі 5 працэнтаў апытаных, харчаваннем — 12, аховай грамадскага парадку — 3,2, медыцынскім абслугоўваннем — 5,5, магчымасцямі для рэалізацыі сваіх правоў і свабод — 8,5, сацыяльнай абаронай насельніцтва — 2, жыццём у цэлым — 11,7 працэнта. Большасць насельніцтва імкліва бяднее. 49,5 працэнта жывуць ад зарплаты да зарплаты (і дзякуючы Богу, што яна ёсць), 34,9 працэнта ледзьве зводзяць канцы з канцамі, 12,2 працэнта вечна ў даўгах. Усе гэтыя катэгорыі кожны дзень баяцца новага росту цэн, і толькі 5,2 працэнта (мізэр) адзначылі, што жывуць у дастатку.

Усё гэта стрымлівала працэс духоўнага абнаўлення і нацыянальнага адраджэння беларускага народа, стварала цяжкасці на шляху яго вяртання да сваёй нацыянальнай культуры. Ва ўмовах глыбокага эканамічнага і палітычнага крызісу ўкаранілася практыка рэшткавага фінансавання культуры. Калі ў 1990 годзе адлічэнні на яе ў СССР склалі 1,2 працэнта бюджэту, то ў БССР — толькі 0,76 працэнта.

Такія мізэрныя асігнаванні не толькі не садзейнічалі адраджэнню нацыянальнай культуры, але пагражалі ёй заняпадам.

Не ў лепшым стане апынулася і навука. У 1989 годзе, напрыклад, доля базавага бюджэтнага фінансавання АН Беларусі ў нацыянальным даходзе рэспублікі склала ўсяго 1,16 працэнта, што было ў 2,5 раза ніжэй за агульнасаюзны ўзровень. Недастатковае фінансаванне навуковых даследаванняў вяло да падзення прэстыжу навуковай працы, пераходу вучоных у іншыя сферы грамадскай дзейнасці, напрыклад, бізнес, камерцыю, з больш высокай аплатай працы.

Трэба адзначыць, што ні ў канцы 80-х, ні ў 90-х гадах не былі распрацаваны навукова-тэарэтычныя асновы развіцця беларускай культуры, адсутнічала агульная канцэпцыя культурнага будаўніцтва. Гэта была адна з галоўных перашкод для радыкальных пераўтварэнняў у галіне духоўнага жыцця нацыі.

Нацыянальна-культурнае адраджэнне было немагчымае без рэфармавання сістэмы ўлады, створанай у гады таталітарнага рэжыму, якая ўяўляе сабой зліццё функцый партыйнага і дзяржаўнага апарату і з'ўлялася галоўнай перашкодай радыкальных пераўтварэнняў.

Першым крокам у гэтым накірунку сталі выбары народных дэпутатаў СССР, якія ў рэспубліцы адбыліся 26 сакавіка 1989 года. У выніку былі створаны новыя інстытуты ўлады зверху і данізу.

Наступным, вельмі важным крокам нацыянальнага адраджэння Беларусі стала аднаўленне яе дзяржаўнай незалежнасці. 25 жніўня 1991 года Вярхоўны Савет БССР прыняў Закон "Аб наданні статуса канстытуцыйнага Закону "Аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі", а таксама пастанову "Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларускай ССР". Пачатак суверэннага развіцця азнаменаваўся заменамі назвы рэспублікі, а таксама дзяржаўнай сімволікі. 19 верасня 1991 года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў Закон "Аб дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь" і "Аб дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь". Сваімі дзяржаўнымі сімваламі Рэспубліка Беларусь узяла старажытныя герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг. У маі 1995 года ў выніку рэферэндуму гэтыя сімвалы былі заменены на новыя.

Новая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, прынятая Вярхоўным Саветам 15 сакавіка 1994 года, вызначыла заканадаўчую аснову для прынцыпова новага ўладкавання дзяржавы, устанавіла прэзідэнцкую форму кіравання.

Аднак, нягледзячы на спробы радыкальнага абнаўлення грамадства ў пачатку 90-х гадоў, фактычна мала што змянілася ў сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці беларускага народа. Адной з прычын такога становішча было тое, што рэфармаванне палітычнай сістэмы, як і эканамічных адносін, праводзілася непаслядоўна, ішло складана і хваравіта, таму што закранала інтарэсы розных сацыяльных слаёў і груп насельніцтва, усю сістэму кіравання.

Гэта тармазіла станаўленне дэмакратыі і рыначнай эканомікі, што адмоўна адбівалася і на працэсе адраджэння нацыянальнай культуры.

Больш таго, у другой палове 90-х гадоў пачалося разбурэнне першых парасткаў нацыянальнага адраджэння, затуханне дэмакратычных працэсаў, гарантам якіх з'ўлялася новая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. На жаль, яна праіснавала менш як тры гады — з сакавіка 1994 года да лістапада 1996 года. Многія стваральнікі Канстытуцыі 1994 года, якія ўваходзілі ў Канстытуцыйную камісію, не прызналі законнасці канстытуцыйных пераўтварэнняў, што адбыліся ў краіне ў выніку рэферэндуму 26 лістапада 1996 года. Яны лічаць, што дзяржава, якая клапоціцца пра палітычную і эканамічную стабільнасць, пра тое, каб грамадзяне былі ўпэўнены ў сваіх правах і ў заўтрашнім дні, імкнецца да стабільнага, грунтоўнага заканадаўства, якое дзейнічала б на працягу многіх дзесяцігоддзяў. Без гэтага немагчыма прывіць грамадству галоўную адзнаку прававой дзяржавы — усеагульную павагу да закона і ўсеагульную адказнасць перад законам.

На жаль, адбітак часовасці, хісткасці, няпэўнасці ляжыць сёння на ўсім, што датычыць асноўных атрыбутаў дзяржавы. Агульнавядома, што духоўная культура нацыі можа развівацца толькі на жыватворнай глебе традыцый, якія засталіся нам у спадчыну ад папярэдніх пакаленняў. Тэндэнцыя вяртання да парадкаў і каштоўнасцей савецкай таталітарнай сістэмы, аб чым сведчыць сучасная беларуская рэчаіснасць, вядзе да палітычна-грамадзянскай і сацыяльнай напружанасці, міжнароднай ізаляцыі Рэспублікі Беларусь.

У гэтых умовах, якія характэрны для сучаснага пераходнага перыяду, амаль немагчыма зберагчы і памножыць духоўныя багацці беларускага народа, адстаяць яго незалежнасць і нацыянальную годнасць. Лёс рэспублікі і культуры яе народа залежыць ад актыўнага ўдзелу мільёнаў людзей у грамадскім жыцці, ад дэмакратычнасці іх выбару, ад таго, якой будзе грамадзянская пазіцыя кожнага, хто хоча садзейнічаць адраджэнню, узбагачэнню нацыянальнай культуры.

**Аляксандр УРУБЛЕЎСКІ.**

**Заканчэнне. Пачатак у № 28.**

НАМ ПІШУЦЬ

# СУСТРЭЧА З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ

*Каб і адтуль, з вышыняў,*
*каб і адтуль, з далечы,*
*бачыць цябе, Радзіма,*
*і, як цяпер, любіць.*

**Эдуард АКУЛІН.**

Калі дні занятыя цікавым, змястоўным, новымі сустрэчамі, час пралятае непрыкметна. Хутка прамільгнулі два тыдні курсаў павышэння кваліфікацыі настаўнікаў беларускай мовы замежжа, наладжаныя Міністэрствам адукацыі рэспублікі Беларусь. Шчыра ўдзячныя супрацоўніку міністэрства спадару Генадзю Пяцігору. Ён шмат робіць, каб курсы былі карыснымі. Слухачы пабывалі ў дзвюх школах Мінска, падзяліліся вопытам, атрымалі карысныя парады, а настаўніца беларускай мовы і літаратуры школы № 245 Наталля Пшанічная, якую прадставіла дырэктар як каштоўную знаходку, проста зачаравала нас. Яна так пранікнёна прачытала творы У. Караткевіча "Дзе мой край?", Ю. Геніюш "Здараецца пад восень бэз цвіце", А. Клімовіча "Сіняе, сіняе мора", творы Я. Брыля, Э. Агняцвет. Яна так зачаравала і ўнутраным святлом, і знешнім воблікам — новы тып сучаснага настаўніка.

У вольны ад заняткаў час — вандроўкі па Мінску: наведалі музей Янкі Купалы, тэатр, а ў выхадны дзень — паездка ў старажытны і вечна малады Нясвіж, Мір. Блукала па парку ў Міры, Нясвіжы, вакол такія прыгожыя краявіды, азёры, дрэвы, якія памятаюць нашых знакамітых продкаў, што жылі тут у XVI—XIX стагоддзях.

Імпрэза, прысвечаная А. Міцкевічу, была наладжана Скарынаўскім цэнтрам.

У навуковай бібліятэцы азнаёміліся з новай педагагічнай літаратурай. У мяне самыя моцныя ўражанні ад канцэрта бардаўскай песні Эдуарда Акуліна ў Чырвоным касёле, наладжанага тэатрам "Зьніч". Вяла праграму Галіна Дзягілева, вершы паэта чытаў артыст Вячаслаў Галуза, уступнае слова пра паэта сказаў М. Скобла. Адкрыла для сябе чыстую, светлую паэзію Эдуарда Акуліна, у яго кожны радок верша — паэзія. Напрыклад: "Думка аб здрадзе — здрада", альбо "Анёл самотны падаў з неба над Беларуссю незаўважна..." і г. д.

Сем гадоў існуе ў Мінску "Беларуская хатка", у якой працуе дырэктарам паэт Эдуард Акулін. На зборніку "Крыло анёла" Э. Акуліна паэт так надпісаў:

**"Там, дзе Максімава сэрца**
**б'ецца з Пагоняй у такт.**
**Там, дзе ў нябёсы мкнецца**
**Ганны святой спічак...**
**Там, дзе спаткацца з Музай**
**Марыць любы паэт, —**
**Вільня — для беларусаў, —**
**стары і новы свет!"**

Спадзяюся, наступная сустрэча з паэтам адбудзецца ў Вільні.

Так праляцелі два тыдні, насычаныя, напружаныя, змястоўныя, багатыя на сустрэчы і ўражанні. І ўсё гэта адбылося дзякуючы "бацькоўскаму клопату" Генадзя Міхайлавіча. Гэта так, бо ён столькі ўвагі і часу аддаў нам.

**Леакадзія МІЛАШ.**

г. Вільнюс.



**НА ЗДЫМКУ:** выступае Эдуард АКУЛІН.

ДЫЯСПАРА

# БЕЛАРУСЫ Ў КРАІНЕ ГУРОНАЎ

У ДРУКУ Беларусі працягваюць з'яўляцца фатаграфіі і справаздачы пра паломніцтвы да цікавага, адзінага ў сваім родзе беларуска-канадскага помніка. Але недасведчаны чытач успрымае гэта "некрытычна". Прапаноўваем кароткую перадгісторыю і "антыкаланіяльны" каментарый.

5 верасня 1988 года ў час 18-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі айцом Аляксандрам Надсонам, апостальскім візітатарам для заходніх беларусаў, у Мідландзе (Антарыё) быў асвячоны і адкрыты Беларускі Крыж. "Крыж гэты, — вынікае з надпісу на ім, — пастаўлены беларусамі на адзначэнне тысячных угодкаў хрысціянства ў Беларусі на славу Богу й Бацькаўшчыне-Беларусі", "З малітвай за свабоду Беларусі" — дадаецца ў англійскім перакладзе. Далей ідзе вядомы тэкст, які праз тры гады, калі свабода-незалежнасць была дасягнута, стаў прэтэндэнтам на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь: "Магутны Божа, Уладар сусветаў..."

На маляўнічай паштоўцы, вырабленай на фабрыцы ў Таронта, гэты "Беларускі памятны крыж" пазначаецца і як "Святыня Пакутнікаў". Ён пастаўлены ў месцы, дзе "некалі індзейцы выразалі хрысціянскіх місіянераў", "на рэзервацыі-прошчы" (якую не трэба блытаць з індзейскай рэзервацыяй). Паведамляючы пра гэтую асаблівасць размяшчэння крыжа, Вітаўт Кіпель, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, адзначае: "Цікавы факт для вывучэння беларуска-індзейскіх дачыненняў".

Першым у беларускамоўным друку, даступным чытачам у БССР, у беластоцкай "Ніве" пра яго напісаў Сакрат Яновіч, які наведваў Мідланд і даў наступную ацэнку: "Беззаглядна фундавалі ў месцы мук пару езуітавых місіянераў гадоў чатырыста таму назад, не адмовіўшыся, што трупамі "чырванаскурых" каланізатараў услалі ваколіцу. Там, дзе адны паляць, а другія гінуць, не даходзіць да змяшання культур і расаў у нешта трэцяе, як здарылася гэта ў Мексіцы або ў Бразіліі".

У лісце Беларуска — індзейскаму таварыству С. Яновіч удакладняе: "Місіянеры-езуіты ў Мідландзе. Яны былі французскія, і ажно ў семнаццацтым стагоддзі. Двух ці трох з іх забілі індзейцы. Як казалі мне канадцы і эмігранты — прычынаў забіць было дастаткова. Адпомста французаў была страшная: учынілі індзейцам лакальны генацыд. Беларускі Крыж ставілі ў санктуарыі — месцы смерці тых езуітаў".

"Высвячэнне міленіўмнага Беларускага Крыжа" "ў мідландскім санктуарыуме", "пастаўленага з грамадскіх ахвяраванняў", адбылося ў прысутнасці вядомых прадстаўнікоў беларускай эміграцыі, у тым ліку папулярных ужо на Бацькаўшчыне Данчыка Андрусышына і Алы Орса-Рамана... Ці задумваліся яны над тым, як паставяцца да іх урачыстага акта індзейцы, ці падарожнічалі ў думках праз увесь калісьці нехрысціянскі свет?

Зразумець "ролю і месца" ў санктуарыі Беларускага Крыжа дапамагаюць матэрыялы, прысланыя бібліятэкарам Гістарычных паркаў Гуроніі, адзін з "атракцыёнаў" якіх называецца "Сент-Мэры сярод гуронаў". Гэты мемарыяльны комплекс складаецца з царквы, памяшканняў для выстаў, тэатра, продажу сувеніраў і г. д. Вакол размешчаны крыжы ад розных народаў, у тым ліку харватаў, славакаў, славенцаў і літоўцаў, прадстаўнікі якіх разам з іншымі з усяго свету ажыццяўляюць паломніцтвы ў вызначаныя д[illegible] мая па кастрычнік. "Свять[illegible] пакутнікаў" наведваюць беларусы з "дыяцэзіі" Пітэрбара. Менавіта іх куратар Раіса Жук-Грышкевіч рэгулярна прысылае ў Мінск паведамленні пра чарговую ездку ў Мідланд.



Сент-Мэры на беразе заліва Джорджыан возера Гурон было "каардынацыйным цэнтрам" групы місіянераў, якія працавалі ў гэтым раёне з 1639 па 1649 год. Ахвярамі гуронаў сталі шэсць айцоў-езуітаў і двое іх памочнікаў. У рэшце рэшт місію пакінулі і спалілі. Праз трыста гадоў там правялі раскопкі, а ў 1967 годзе адбылося афіцыйнае адкрыццё адной з нацыянальных святыняў канадскіх пакутнікаў, наглядаюць за якой дырэктар, яго намеснік і чатыры памочнікі — усе члены Ордэна Ісуса.

Як вядома, традыцыя ставіць памятныя крыжы пачала аднаўляцца і ў Беларусі, а адзін з іх устаноўлены ў Курапатах. Зноў узнікае пытанне: колькі хрысціян пахавана на гэтых страшных "дзяржаўных" могілках, колькі расстраляных камуністаў, іудзеяў і іншых "меншасцей" былі б незадаволены крыжам, ці магчымы там "санктуарый" накшталт мідландскага і, нарэшце, хто "індзейцы" і хто "місіянеры"?

Адзін з калег а. Надсона па Англа-беларускаму таварыству, англічанін французскага паходжання Гай дэ Пікарда, калі быў у Чыкага, "пісаў жалабу бурмістру", што ў горадзе няма помніка "лідэру і вялікаму індзейскаму жаўнеру Шэраму Ястрабу, які гераічна бараніў правы "сваіх людзей працію амерыканскіх экспансіяністаў", але адказу не атрымаў.

**Алесь СІМАКОЎ,**
**выканаўчы сакратар**
**Беларуска-індзейскага**
**таварыства.**

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ШЭСЦЬ ГЕНЕРАЛАЎ З РОДУ ГУРКАЎ



У Мінску на Ваенных могілках узвышаецца храм-помнік, узведзены ў гонар перамогі рускага войска ў турэцкай вайне 1877—1878 гадоў. На яго сценах прымацаваны мемарыяльныя дошкі ў памяць тых, хто не вярнуўся з гэтай даўняй вайны. Сярод іх значацца імёны воінаў-беларусаў Фёдара Несцяровіча, Бенядзікта Караткевіча, Фёдара Канановіча, Аляксандра Беразюка, Міхаіла Смоліча, Пятра Яцэвіча, Стэфана Савіча. Усе яны загінулі пры штурме турэцкай крэпасці Плеўна, якую рускія войскі тры разы бралі прыступам, але ніяк не маглі ўзяць. І толькі калі падышло войска генерала Гурко і пачало энергічна штурмаваць цвярдыню, Плеўна капітулявала.

Наша беларуская зямля — радзіма многіх буйных военачальнікаў, генералаў і адміралаў, якія ў барацьбе за незалежнасць не толькі свайго, але і братніх народаў праявілі гераізм і самаахвярнасць.

Адзін з іх — генерал-фельдмаршал Іосіф Гурко, герой вызваленчай вайны балгарскага народа ад турэцкай няволі.

* * *

Калі праўда, што людзі нараджаюцца ваеннымі, дык Іосіф Уладзіміравіч нарадзіўся менавіта ваенным. Ён паходзіў са старадаўняга роду Гуркаў-Рамейкаў, ваенных і дзяржаўных дзеячаў Вялікага Княства Літоўскага. Роданачальнікам быў Гурка (Гурый) Рамейка, які ў 1539 годзе быў смаленскім намеснікам. Яго нашчадкі жылі ў Віцебскім павеце. Праўнук Гурыя Андрэй у час вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй (1654—1667) трапіў у палон і памёр у Маскве. Нашчадкі Іосіфа Гуркі, брата Андрэя, пасля падзелу Рэчы Паспалітай перайшлі ў расійскае падданства і пачалі на рускі манер насіць прозвішча Гурко.

З роду Гуркаў выйшла аж 6 генералаў расійскай арміі. Дзед Уладзіміра Іосіфавіча, генерал-лейтэнант, быў сенатарам пры царскім двары, бацька Уладзімір Іосіфавіч, генерал ад інфантэрыі, удзельнічаў у Айчыннай вайне 1812 года. Яго ўдзел планаваўся ў выступленні дзекабрыстаў у Маскве. Быў пад следствам, але следчая камісія абвінаваўчых матэрыялаў не знайшла, і ён працягваў служыць у расійскай арміі. З 1845 года — начальнікам штаба Асобнага Каўказскага корпуса, з 1851-га — начальнікам усіх рэзервавых і запасных войскаў усёй Расіі.

Яго сын, Іосіф Уладзіміравіч Гурко, герой руска-турэцкай вайны, пра якога ідзе гаворка ў гэтым артыкуле, нарадзіўся 28 ліпеня 1823 года ў вёсцы Брунёўка Круглянскага павета Магілёўскай вобласці. Працягваючы ваенныя традыцыі свайго роду, ён скончыў Пажаскі корпус і пачаў службу гвардзейскім кавалерыстам. Малады афіцэр марыў аб ваенных подзвігах. Але лёс, аднак, ахоўваў яго ад войнаў, хоць Гурко знарок пайшоў з гвардзейскіх ротмістраў у пяхотныя маёры, каб прыняць удзел у Севастопальскай кампаніі са словамі: "Жыць з кавалерыяй, а паміраць з пяхотаю". Салдат і патрыёт, ён быў ва ўсім прастадушны. Калі пазней яму, палкоўніку і флігель-ад'ютанту, жандарскае трэцяе аддзяленне прапанавала сачыць за нядобранадзейнымі, ён у знак пратэсту падаў у адстаўку. Справа атрымала агалоску, адстаўка не была прынята, але пры двары нядобразычліўцы калолі Гурко выразам, якім адклікнуўся на яго ўчынак Герцэн у сваім "Колоколе": "Аксельбанты флігель-ад'ютанта Гурко — сімвал доблесці і гонару".

У ваеннай справе прытрымліваўся прынцыпу: ісці наперад, не зважаючы на колькасную перавагу ворага. Імкліва зблізіцца з ім і перамагчы.

Пачатак руска-турэцкай вайны, у якую Расія ўступіла, каб вызваліць балгарскі народ ад прыгнёту Асманскай імперыі, застаў яго ў званні генерал-лейтэнанта на пасадзе камандуючага 2-й гвардзейскай дывізіяй. У свае сорак дзевяць гадоў быў статны, як юнак, вынослівы, непатрабавальны ў быце. Першыя ж месяцы кампаніі былі адзначаны яго бліскучымі перамогамі. Прызначаны начальнікам Перадавога (Паўднёвага) атрада, ён 25 чэрвеня 1877 года імкліва аваладаў стараж[illegible]й балгарскай сталіцай Тырна[illegible]здзейсніў першы паход за Балканы. Захапіўшы стратэгічна важны перавал, ён выйшаў да вёскі Шыпка, адсякаючы ад тылу турак, якія тут замацаваліся. Баючыся акружэння, туркі кінулі[illegible]ўцёкі.

Сваімі д[illegible]кімі і рашучымі дзеяннямі Гурко адкрыў шлях рускай арміі на Балканы. Між тым у Забалканне была перакінута армія Сулеймана-пашы, якая павінна была ісці на выручку Плеўны. Нягледзячы на вялікую перавагу туркаў, Гурко нанёс ім шэраг сур'ёзных удараў. Самай удалай аказалася бітва каля Дуранлы, у якой ён ушчэнт разбіў войскі аднаго з паплечнікаў Сулеймана — Рэуфа-пашы. Але ў гэты ж дзень, 19 ліпеня, пацярпела няўдачу другая атака рускага войска пад Плеўнай, і Перадавы атрад Гурко адышоў да Тырнава.

За бліскучыя перамогі Гурко атрымаў крыж "Георгія" 3-й ступені і званне генерал-ад'ютанта.

Няўдача каля сцен Плеўны моцна падзейнічала на характар далейшага вядзення вайны. Знакаміты па Севастопальскай абароне генерал Э. Татлебен, які прыбыў 16 верасня з Расіі, настойваў на метадычным ажыццяўленні блакады, якая прымусіла б турак капітуляваць, вельмі неахвотна згаджаўся на якія б там ні было наступальныя аперацыі. Гурко ўсё ж удалося пераканаць яго ў неабходнасці адкрытай сілай авалодаць умацаваннямі Горны Дубняк і Целіш, якія ахоўвалі падыходы да Плеўны з боку Сафійскай шашы, і тым самым канчаткова замкнуць кальцо асады.

Гурко ведаў, што тры няўдачы пад Плеўнай падарвалі дух многіх афіцэраў і салдат, што вельмі неабходна пераканаўчая перамога, якую трэба будзе здабыць менавіта яго атраду, што гвардыі, якая яшчэ не ўдзельнічала ў баях, будзе вельмі цяжка, і, нарэшце, тое, што самі афіцэры-гвардзейцы маюць патрэбу ў добрым слове, якое супакоіць перад бітваю:

— Воіны! На маю долю выпаў вялікі гонар, пра які я ніколі і не мог марыць — весці ў бой гвардыю, гэтае адборнае войска. Для ваеннага чалавека не можа быць большага шчасця, чым весці ў бой войска з упэўненасцю ў перамозе. А гвардзейцы па свайму складу і вывучцы — лепшае войска ў свеце. Памятайце, зам давядзецца ўступіць у бой, на вас будзе глядзець не толькі ўся Расія, але і ўвесь свет.

Заціснуўшы ў кулак пасівелую бараду, Гурко змоўк, збіраючыся з думкамі.

— Бой пры правільнай вывучцы не ўяўляе нічога асаблівага, — ціха, але цвёрда працягваў ён. — І гэта тое ж вучэнне з баявымі патронамі, толькі яно патрабуе яшчэ большай вытрымкі, яшчэ большага парадку. Дык скажыце салдату, што яго святы абавязак — берагчы ў баі патроны, а сухары на біваку, і памятайце, што вы ведзяце ў бой салдата, які ніколі свайго афіцэра не пакідаў у бядзе.

Затым начальнік штаба з картаю выклаў падрабязнасці заўтрашняга выступлення.

Згодна з дыспазіцыяй атака ўмацаванняў каля Горнага Дубняка ўскладвалася на 2-ю Гвардзейскую пяхотную дывізію, Гвардзейскую стралковую брыгаду і сапёрны батальён. Лейб-гвардыі егеры павінны атакаваць Целіш, адцягваючы ўвагу турак ад Сафіі. Астатнія палкі 1-й Гвардзейскай дывізіі, манеўруючы паміж Горным і Дальнім Дубняком, служылі заслонам з боку Плеўны.

...Перед штурмам турэцкіх умацаванняў Гурко ў суконнай шапцы і паходным шынялі павалі ехаў уздоўж строя, узіраючыся ў салдат. Яны стаялі ў даліне, малайцаватыя, бадзёрыя. З-пад лакіраваных чорных брылёў на генерала сур'ёзна глядзелі шэрыя, блакітныя, чорныя вочы. Ён узіраўся ў іх твары, вусатыя і бязвусыя, але з брытымі падбародкамі. Бароды было дазволена насіць ва ўсіх войсках, акрамя гвардыі.

* * *

Войска Гурко пасля цяжкай бітвы авалодала Горным Дубняком. Але страты былі вельмі вялікія — 3 533 чалавекі. Ды яшчэ ў лейб-гусар і драгун пад Целішам загінула да тысячы. Адначасова стала вядома, што на допыце Ахмет-паша сказаў: "Калі б атака не была пачата вельмі рана, а вы працягвалі б страляць з гармат яшчэ нейкі час, я вымушаны быў бы здацца"...

Пасля авалодання Горным Дубняком рускія сталі цвёрдаю нагою на Сафійскай шашы. Але трэба было захапіць і другое ўмацаванне — Целіш за сем вёрстаў на поўдзень. Інакш гвардыі Гурко даводзілася б абараняцца на два франты, чакаючы нападу як з боку Сафіі, так і з боку Плеўны.

Каб захапіць Целіш без вялікіх страт, Гурко вырашыў на гэты раз адвесці галоўную ролю артылерыі і прыбегчы да атакі толькі як да апошняга, крайняга сродку.

Раніцай на батарэі левага фланга пачуўся першы стрэл. І вось ужо ўсе батарэі задыміліся.

Туркі пачалі адказваць з рэдута, але праз гадзіну іх стрэлы сталі ўсё радзейшымі, а рускія гарматы ўзмацнілі агонь.

Гурко адняў ад вачэй бінокль:

— Малайцы! Прыстраляліся!

Але ў камандуючага трывожна сціскалася сэрца пры думцы, што ўсё роўна трэба будзе заканчваць бой адкрытым і зноў крывавым штурмам.

Узяццем Горнага Дубняка і Целіша войскі генерала Гурко замкнулі кальцо вакол Плеўны. У крэпасці не стала прыпасаў. І Плеўна капітулявала. З узяццем Плеўны вайна ўступіла ў апош-

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# БОЙСЯ ТОНКАГА ЛЁДУ

ЧАСТА дастаткова адной кнігі, каб да пісьменніка прыйшла вядомасць. Аляксандр Афяроўскі ў гэтым сэнсе не выключэнне. І хоць ён у літаратуры працуе даўно (выступаў з мастацкімі нарысамі, апавяданнямі, напісаў шэраг сцэнарыяў дакументальных фільмаў, займаецца перакладамі), але менавіта дакументальна-мастацкая аповесць "Святло паўночнага ззяння" прыцягнула да Аляксандра Рыгоравіча пільную ўвагу крытыкі і чытачоў. І невыпадкова. У гэтым творы, а ён пабачыў свет асобнай кнігай у серыі "Слава твая, Радзіма!", якую на той час выпускала выдавецтва "Юнацтва", А. Афяроўскаму ўдалося надзіва праўдзіва і пераканаўча расказаць пра падзеі, што мелі месца тады, калі бальшавікі ўсталёўвалі савецкую ўладу. Зразумела, можна па-рознаму ставіцца да гэтага перыяду ў жыцці грамадства, адно несумненна: гэта наша гісторыя, а гісторыю трэба добра ведаць. Тым больш, што ў аповесці "Святло паўночнага ззяння" — вельмі неардынарны галоўны герой. Ім стаў беларус, сын селяніна з Магілёўшчыны М. Мандрыкаў, якому воляй лёсу і абставін выпала ўсталёўваць новае жыццё на далёкіх ускраінах былой царскай Расіі. М. Мандрыкаў быў першым камісарам Чукоткі. А. Афяроўскі, сабраўшы багаты матэрыял (успаміны старажылаў, архіўныя дакументы), стварыў праўдзівы вобраз аднаго з тых, хто, жадаючы шчасця іншым, менш за ўсё думаў пра сябе, пра асабістую бяспеку.

Прызнацца, пасля знаёмства са "Святлом паўночнага ззяння", хацелася даведацца, а ці здолее аўтар утрымаць ім жа ўзятую мастакоўскую вышыню. А Аляксандр Рыгоравіч, як высветлілася, пісаць нешта новае асабліва не спяшаўся. Прынамсі, не спяшаўся завяршаць, бо ў задуме ўжо быў раман, які пазней атрымаў назву "Двое на тонкім лёдзе".

Праца над новым творам ішла няспешна, удумліва і, як цяпер можна ўпэўніцца, ён, як і аповесць "Святло паўночнага ззяння", варты чытацкай увагі, ды і таго, каб да яго ўважлівей паставілася крытыка. А зрабіць гэта лёгка: як і папярэдняму твору А. Афяроўскага, новаму дало жыццё таксама выдавецтва "Юнацтва".

Гэтым разам А. Афяроўскі вяртаецца да пасляваенных падзей. Тым самым адразу відавочна, што калі ў "Святле паўночнага ззяння" ён ступаў па цаліку, што, безумоўна, выклікала немалыя творчыя цяжкасці, дык цяпер узяўся за асэнсаванне тэмы, якая з-за частага "ўжывання" прадстаўнікамі розных творчых пакаленняў, сапраўды ўжо стала, так сказаць, літаратурнай. А гэта значыць, што з'явіліся хадульныя сюжэты, сітуацыі і чарговаму аўтару даводзіцца цяжка. Лёгка збіцца на ўжо вядомае, спакусліва чужое падаць як сваё. І справа, вядома, не ў звычайным "перапісванні". Небяспека ў дадзеным выпадку іншага кшталту. Многае так моцна асела ў памяці, што пісьменнік часам і забываецца, што пра гэта дзесьці ўжо чытаў.

Да гонару А. Афяроўскага ён з поспехам абыходзіць усе такія падводныя рыфы. І адчуваеш гэта літаральна з першых старонак рамана, што адначасова ўспрымаюцца і свайго роду экспазіцыяй да твора. Армейскія часці толькі што вызвалілі тэрыторыю, дагэтуль акупаваную ворагам. Хапае клопату ўсім, бо трэба як мага хутчэй аднавіць савецкую ўладу, наладзіць працу ўстаноў і арганізацый. Свае турботы і ў работнікаў абласной пракуратуры. Менавіта ў гэты час і трапляе сюды па размеркаванню выпускнік юрыдычнага факультэта Аляксандр Тарасаў. Зразумела, пракурорскае начальства яго адразу ўводзіць у курс справы. Тарасаў, які прывык ставіцца да ўсяго сумленна, належным чынам падыходзіць да даручанай справы. І нават пры беглым знаёмстве з асобнымі матэрыяламі, упэўніваецца, што многае робіцца не так, як павінна рабіцца. "Следчы з яшчэ даваенным стажам Андрэй Трафімавіч Клыпа", прывык дзейнічаць метадамі, якія былі ў пашане ў трыццатыя гады. Таму для яго няма сумнення ў віноўнасці былога паліцая Рамана Каласоўскага. Супрацоўнічаў з немцамі — значыць вораг. Не хоча Клыпа прыняць пад увагу запэўніванні Рамана, што ён выконваў заданні партызан, як і не жадае заняцца належнай праверкай гэтых прызнанняў яго:

— А калі Каласоўскі кажа праўду, Андрэй Трафімавіч? — не вытрымаў і нясмела спытаў малодшы следчы. — Можа, ён сапраўды невінаваты?

— Як гэта... невінаваты? — здзівіўся Андрэй Клыпа. — Мясцовыя жыхары ў адзін голас сведчаць, што Раман Каласоўскі працаваў у паліцэйскай управе Вялікага Будзішча, яе, дарэчы, узначальваў яго старэйшы брат Антон, які недзе хаваецца.

— А гэты ж Раман... нікуды не хаваўся.

— Ну і што? Можа, не паспеў?

— Можа на два варожа, — усміхнуўся Аляксандр. — Антонаву віну нельга перакладаць на Рамана.

Пазнаёміўшыся з гэтым эпізодам, магу паверыць, што ў сяго-таго з чытачоў можа ўзнікнуць пэўная іронія. Маўляў, пасля гэтага пісьменнік пойдзе знаёмай сцяжынай, скіраваўшы ўсю сваю ўвагу на супрацьпастаўленне двух метадаў дзеяння ў дачыненні да раскрыцця злачынства. А тым самым сутыкнуцца два антыподы. Андрэй Клыпа з яго "старой закваскай" і Аляксандр Тарасаў — "з чыстым сумленнем" і з "гарачым сэрцам".

Відавочна, што падобную небяспеку разумеў і сам А. Афяроўскі і таму адразу, як кажуць, расставіў усе кропкі над і. Галоўная ўвага яго скіравана на дзейнасць Тарасава. Аляксандр Міхайлавіч разумее, што цана памылкі будзе каштаваць дорага — абвінавачванняў супраць Рамана Каласоўскага дастаткова, каб ён апынуўся за кратамі. Шукаючы праўду, малады следчы сустракаецца з людзьмі, якія добра ведалі Каласоўскага ў гады вайны. Па логіцы, яны павінны дапамагчы ў разблытванні клубка супярэчнасцяў, ва ўсталяванні ісціны. Ды на паверку атрымліваецца інакш. На жаль, і некаторыя з тых, хто, дзякуючы Раману быў уратаваны, не жадаюць дапамагчы следству, а тым самым рыхтуюць для свайго выратавальніка "пастку".

Назва рамана сімвалічная: "Жыццё зноў аказалася такім ненадзейным, тым самым тонкім лядком на рэчцы, пад які ён аднойчы праваліўся. Жыццё... Што гэта такое? Чаму так чапляешся за яго, калі лепшае ўсё, здаецца, ужо мінула? Тая ж самая маладосць, тыя ж самыя росныя чаромхавыя світанкі, заляцанні. І які яшчэ тонкі лёд чакае яго наперадзе? На якім павароце жыцця ён нечакана трэсне пад нагамі? Хто накрэсліў менавіта гэтую лінію Раманавага жыцця: жыць, як ісці па тонкім лёдзе. А мо і не трэба болей вось так ісці, баючыся зрабіць наступны крок, а ўзяць і адразу праваліцца пад лёд, каб не думаць, не супастаўляць, не шкадаваць, нарэшце, што нарадзіўся на белы свет, невядома для чаго. Мо для адзіноты? Дзе тое роднае гнездзішча, сястра, маці, дзе бацькоўская хата?".

Ажываюць у творы гады калектывізацыі, паўстае тое страшнае, што ламала тады людскія душы. А цяпер, пасля вайны, ці не менш яно жудаснае? А што казаць пра гады пад акупацыяй. На тонкім, на зусім танюсенькім лёдзе знаходзіўся і знаходзіцца герой А. Афяроўскага. А ў іншых пад нагамі ён хіба трывалейшы? Нават у таго ж маладога следчага Аляксандра Тарасава, які шукае праўды і не знаходзіць яе. Больш таго, здавалася б, набліжаецца да яе і нечакана ўпэўніваецца, што гэта зусім не тое, на што ён спадзяваўся.

Усё ж не ўдалося Тарасаву даказаць невіноўнасць Рамана, атрымаў той ажно 18 гадоў. Тым самым перамог не ён у барацьбе за праўду, а старшы следчы Клыпа, для якога гэтага святога паняцця, бадай, ніколі не існавала. Урэшце рэшт, раман А. Афяроўскага не з тых твораў, у якіх усё лёгка вырашаецца. Пісьменнік, ідучы ўласным мастакоўскім шляхам, далёкі ад лакальнага вытлумачэння тых ці іншых сітуацый, ды і дзеянне ў рамане разгортваецца востра, напружана. Гэта тычыцца і лёсу старэйшага Каласоўскага, які і на самай справе вінаваты, бо добраахвотна служыў фашыстам. Гіне ён, падарваўшыся на міне, якая некалі, у час "рэйкавай вайны" была пастаўлена партызанамі. Гіне пасля таго, як здолеўшы ўцячы з месцаў, дзе адбываў пакаранне, падумвае аб тым, каб перайсці мяжу.

Несумненна, творы, падобныя раману А. Афяроўскага "Двое на тонкім лёдзе", у чытача не застаюцца незапатрабаванымі. Тым большае задавальненне раман прынясе тым, хто ўжо знаёмы з творчасцю пісьменніка і ўважліва сочыць за яго далейшым мастакоўскім лёсам.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

# СТАРЫЯ ПЛАЧУЦЬ, КАЛІ ГУЧЫЦЬ АПОВЕД ПРА БЕЛАРУСЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Акварэлі мастака, што экспануюцца ў музеі, прысвечаны Украіне. Так было дамоўлена з пасольствам Украіны на Беларусі, якое разам з Міністэрствам культуры Баларусі стала арганізатарам выставы.

Уладзімір Кіркевіч цэніць яркую прыгажосць сваёй другой радзімы. Мора (ён, дарэчы, жыве ў пятнаццаці мінутах хады ад яго), прырода Крыма заварожваюць і не пакідаюць абыякавымі тых, хто бачыць акварэлі нашага суайчынніка.

Сам мастак кажа, што вельмі любіць пісаць неба. Так ён стварае настрой карціны. Ад яго ідзе святло, цяпло, цераз яго ідзе сувязь з Космасам і Сусветам. Уладзімір Кіркевіч упэўнены, што неба ніколі не бывае аднолькавым. Другі раз такое ж не напішаш. У яго акварэлях неба змяняе колер, здаецца, у цябе на вачах. Кожны, хто ўбачыць творы мастака, застанецца з адчуваннем святла і чысціні, што ідуць ад ягоных карцін.

Галоўная ж натхніцельніца творчасці — жонка Галіна Яфімаўна. Яна загадкава ўсміхаецца і кажа, што не было б яе — "ён наогул не пісаў бы карціны". Сама ж яна піша вершы. Здарылася так, што і вершы, і каханне да Уладзіміра Міхайлавіча прыйшлі да Галіны Яфімаўны ў сталым узросце. Ён жа гаворыць, што жонка — самае галоўнае ў яго жыцці, і дарыў ёй усе кветкі, якімі віталі яго падчас адкрыцця выставы. "Калі б у сям'і было дрэнна — і карціны мае былі б іншыя. Наогул, усё мастацтва — у імя жанчын".

Вось такі мастак жыве ў Феадосіі. Ён любіць сваю жонку. Ён выкладае малюнак у Цэнтры дзіцячай творчасці. Дарэчы, распрацаваў сваю 2-гадовую праграму навучання. Ён дорыць свае акварэлі музеям. Больш 100 ягоных прац — падарункі людзям і музеям.

І яму вельмі важна, каб тут, на радзіме, ведалі яго як мастака і памяталі пра беларусаў, якіх лёс раскідаў па свеце.

**Алена СПАСЮК.**



**НА ЗДЫМКАХ: Уладзімір КІРКЕВІЧ з жонкай Галінай Яфімаўнай; у час адкрыцця выставы; акварэлі мастака "Першы снег у Запарожжы"; "Польскія вароты ў Камянец-Падольску".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**







ШАГАЛАЎСКІ ПЛЕНЭР





**У Віцебску завяршыліся VIII міжнародныя Шагалаўскія дні. Яго ўдзельнікі прынялі ўдзел у Шагалаўскіх чытаннях, у адкрыцці выстаўкі "Дары музею М. Шагала", пленэры юных мастакоў, адкрыцці помніка "Скрыпка Шагала" і літаратурна-музычным вечары "У гасцях у Марка і Бэлы".**

**НА ЗДЫМКАХ: новы помнік у Віцебску "Скрыпка Шагала"; адзін з фрагментаў літаратурнага вечара "У гасцях у Марка і Бэлы".**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# ЧАС ЗБІРАЦЬ КНІГІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

1921 годзе археаграфічны факультэт Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута. Але ён быў і сапраўдным беларусам, патрыётам. Бо вырас у вёсцы Скары на беразе незвычайнай прыгажосці возера Мядзел, бо быў дзед, які доўгімі зімовымі вечарамі расказваў унуку казкі і "быліны мінулай даўніны", бо пашанцавала на настаўніка ў вясковай школцы, які адкрыў перад юнаком "новы свет прыгажосці і высакароднасці будучага чалавека".

Спрабаваў свае сілы М. Мялешка ў прыгожым пісьменстве, друкаваўся ў легендарнай беларускай газеце "Наша ніва" (1914), альманаху "Маладая Беларусь" (1913). Уступіў у шэрагі Беларускай сацыялістычнай грамады. Быў вучоным-архіварыусам — намеснікам загадчыка Цэнтрархіва БССР, у 1929 годзе прызначаны вучоным спецыялістам-архівістам Цэнтральнага архіўнага кіраўніцтва БССР. Адначасова працаваў у Інбелкульце, Беларускай акадэміі навук. Далей, на жаль, звычна для 30-х гадоў. Рэпрэсіраваны па абвінавачанні ў прыналежнасці да міфічнага "Саюза вызвалення Беларусі"; пасля 1940 года лёс яго невядомы.

Ды засталася пасля М. Мялешкі адметная бібліятэка. Асобныя выданні рознымі шляхамі трапілі ў Нацыянальную і Прэзідэнцкую бібліятэкі Беларусі, Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры, бібліятэкі Дзяржкамітэта па архівах і справаводству і Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа. Большая частка Мялешкавай літаратуры захоўваецца ў Нацыянальным і Нацыянальным гістарычным архівах Беларусі, Дзяржаўным архіве Мінскай вобласці. Усяго складальнікі пакуль выявілі 94 назвы выданняў. У складзе ацалелай часткі бібліятэкі — беларускія выданні пачатку XX стагоддзя, кнігі па гісторыі, архівазнаўству і краязнаўству. У прынцыпе, гэта тыповы кнігазбор тагачаснага беларускага інтэлігента (з некаторымі спецыяльнымі выданнямі па архіўнай справе), даволі выразны адбітак яго мікра- і макрасвету ў 20-я — 30-я гады.

А яшчэ я б назваў яго светлай бібліятэкай беларусаведы і трагічнай бібліятэкай спецсхова адначасова. Прынамсі, амаль усе выданні, якія апісаны ў каталогу, падпалі пад цэнзуру Галоўліта — канфіскоўваліся ў карыстальнікаў, знішчаліся, адпраўляліся ў спецсховы.

Знайшлі сваё месца ў кнігазборы і, адпаведна, адлюстраваны ў зводным каталогу адзіны прыжыццёвы зборнік М. Багдановіча "Вянок" (1913), першавыданні мастацкіх твораў З. Бядулі, Я. Купалы, Ф. Аляхновіча, працы этнографаў і фалькларыстаў А. Семянтоўскага, А. Сержпутоўскага, дзеячаў БНР і савецкай беларусізацыі Я. Лёсіка, В. Іваноўскага, В. Ластоўскага, А. Цвікевіча, А. Чарвякова.

Сталіся складальнікі і аўтарамі адной кнігазнаўчай сенсацыі. Сярод кніг М. Мялешкі ім пашчасціла выявіць бібліяфільскую рэдкасць — ананімную брашуру "Аб чым час цяпер гаманяць", выдадзеную ў Барысаве ў 1906 годзе. Па запісу, зробленаму на адвароце вокладкі слынным бібліяфілам Рамуальдам Зямкевічам, удалося высветліць аўтара — Ігната Цюндзявіцкага з вёскі Кішчына Слабада Барысаўскага павета, а таксама тое, што з накладу 3 000 асобнікаў 2 900 былі сканфіскаваныя.

Праглядаю каталог далей. Прыцягваюць увагу "Віцебская даўніна" А. Сапунова, самаробныя брашуры з тэкстамі А. Луцкевіча (А. Навіны). А вось брашура Маліноўскага "Як багацеюць чэскія сяляне" (1912, пераклад з польскай мовы Т. Гардзялкоўскай). Пра яе пазначана: "паасобнік часткова неразрэзаны". Пагадзіцеся, досыць сімвалічны факт. Калі б гарталіся, чыталіся старонкі гэтага і аналагічных выданняў некалі, то можа ўбачылі б мы, нарэшце, і брашуру "Як багацеюць беларускія сяляне". А так і сёння, праз 86 гадоў, і ў бліжэйшай будучыні яе, па ўсім відаць, чакаць не даводзіцца.

У асобны раздзел вылучаны кнігі, выдадзеныя лацінскім шрыфтам, інакш кажучы, на лацінцы (21 асобнік). У свой час я вельмі здзівіўся, напаткаўшы ва Урадавай (сёння Прэзідэнцкай) бібліятэцы выданні на беларускай мове лацінкай, апісаныя як польскамоўныя і ўключаныя ў польскі каталог. Тую недарэчнасць выправілі. Але дасюль сутыкаюся з тым, што шмат якія не толькі студэнты, а і прафесійныя бібліятэчныя працаўнікі губляюцца перад беларускай лацінкай, лічаць яе польскай мовай. Нічога не зробіш — такі ўжо, відаць, масавы ўзровень засваення нашай нацыянальнай культурнай спадчыны. Магчымае выйсце — шырэй перавыдаваць і прапагандаваць беларускія літаратурныя помнікі, надрукаваныя калісь лацінкай. Тут дарэчы і здаліся б хоць бы такія рарытэты з бібліятэкі М. Мялешкі: Dunin-Marcinkiewičz W. Hapon (1907), Ziamkiewič R. Jan Barsčeuski — piersy bielaruski pismennik XIX staleccia (1911), Ziaziula A. Slowa praudy ab mowie i doli bielarusa (1917), Ciotka. Skrypka bielaruskaja (1918).

Уваходзяць у каталог нумары унікальных часопісаў і выданняў з працягам "Адраджэньня" (1922), першага беларускамоўнага перыёдыка для моладзі "Лучынка" (1914). "Вольнага сцяга", "Узвышша", "Полымя" і "Маладосці" за 20-я гады, газеты "Савецкая Беларусь" (1921).




Прыналежнасць выданняў да бібліятэкі М. Мялешкі вызначалася па інвентарных нумарах, уладальніцкіх і дароўных надпісах (З. Даўгялы, В. Дружчыца і інш.), факсіміле ўладальніка, паштовых ярлыках. Надаюць ілюстрацыйнасць, даюць магчымасць карыстальнікам высветліць для сябе нейкія дэталі 29 змешчаных выяваў вокладак, тытульных аркушаў і першых старонак.

Рэдактарам "Бібліятэкі Міхася Мялешкі" значыцца мэтр рэдкай кнігі Беларусі, загадчыца адпаведнага аддзела Нацыянальнай бібліятэкі Таццяна Рошчына. Таму з навуковага і бібліяграфічнага боку зводны каталог выглядае цалкам узорна-паказальна. Адзінае, што ў імянны паказальнік акрамя сааўтараў, рэдактараў, аўтараў прадмоў, перакладчыкаў і мастакоў мэтазгодна было б уключыць і аўтараў кніг.

Жыццё не стаіць на месцы. І сёння, напрадвесні XXI стагоддзя, мы павінны зрабіць усё, каб зноў не ператварыць Беларусь у край, "дзе мясцовая гісторыя заснула і кучы яе помнікаў ляжаць у бяздзейнасці ці гінуць па нядбайнасці; дзе шматлікія бібліятэкі, выяўленне былой адукаванасці і сродак для будучай, не адно зачыняюцца без карысці, але проста губляюцца і знікаюць у трывогах падзей, без прымянення да мясцовых патрэб ..." Так сказаў выбітны фалькларыст Пётр Бяссонаў у прадмове да зборніка "Беларускія песні" (1871).

Думаецца, складальнікі зводнага каталога "Бібліятэка Міхася Мялешкі" кіраваліся ў сваёй ахвярнай працы менавіта гэтым пастулатам. Для іх час збіраць кнігі прыйшоў.

**P. S.** Парадаксальна, але наклад зборніка Бяссонава склаў у канцы XIX стагоддзя 160 асобнікаў, наклад аглядаемага тут выдання, у канцы XX стагоддзя, — 150 асобнікаў. Пытанне? Пытанне. Дык няхай іх будзе ўсё ж меней на нашай Бацькаўшчыне.

**Валеры ГЕРАСІМАЎ,**
**загадчык фонду старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь.**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ДЭКЛАРАЦЫЯ — У ВЫГЛЯДЗЕ КОМІКСАЎ




10 снежня 1948 года Генеральная Асамблея Арганізацыі Аб'яднаных Нацый зацвердзіла і абвясціла Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека. У сваім пасланні з нагоды пачатку года святкавання 50-годдзя Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека Генеральны сакратар ААН Кофі Анан сказаў: "Правы чалавека з'яўляюцца асновай чалавечага існавання і суіснавання. Правы чалавека з'яўляюцца ўсеагульнымі, непадзельнымі і ўзаемазалежнымі. Менавіта правы чалавека робяць нас людзьмі".

У самы блізкі час з прынцыпамі, пры дапамозе якіх, па словах Кофі Анана, "мы ствараем свяшчэнны дом для чалавечай годнасці", змогуць пазнаёміцца і беларускія дзеці. Па ініцыятыве прадстаўніцтва ААН у Беларусі выдадзена Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека ў выглядзе коміксаў, даступных дзецям ад сямі — дзесяці гадоў. Гэта не першы вопыт ААН па выданні сур'ёзнай літаратуры такім чынам, каб яна была зразумелай самым юным грамадзянам. На цырымоніі прэзентацыі кнігі коміксаў, што знаёмяць дзяцей з небяспекай, якую тояць у сабе міны, Генеральны сакратар ААН Кофі Анан заўважыў: "Палітыкі доўгі час зведвалі страх перад колкімі малюнкамі карыкатурыстаў, але дзеці, як звычайна, з'яўляюцца больш мудрымі, чым мы іх лічым. Коміксы маюць навучальны момант нават тады, калі яны служаць для забавы, і якой фантастычнай ні з'яўляецца гісторыя, пачуцці і страхі заўсёды застаюцца рэальнымі".

Нягледзячы на тое, што кніга з ілюстрацыямі мастака Ігара Ліпскага разлічана на вучняў пачатковых класаў сярэдняй школы, як паказвае практыка, яе з задавальненнем чытаюць і дарослыя, многія з якіх, магчыма, упершыню даведаюцца з яе аб правах, якімі валодаюць іх дзеці.

Рэалізацыя данага праекта стала магчымай дзякуючы падтрымцы шэрагу агенцтваў сістэмы ААН — Праграмы развіцця ААН, Упраўлення Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў, Дэпартамента грамадскай інфармацыі, Дзіцячага фонду ААН, Фонду ААН у галіне народанасельніцтва, а таксама арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Акрамя таго, у выданні кнігі немалы ўдзел прынялі пасольствы Вялікабрытаніі, Швецыі, ЗША, Швейцарыі, Нідэрландаў, а таксама беларускі Ротары-клуб. На сабраныя сродкі выдадзена паўнаколерная кніга тыражом 100 000 экземпляраў, якія будуць распаўсюджаны сярод 5 тысяч беларускіх школ, кожная з якіх атрымае каля 200 экземпляраў. Разам з новымі падручнікамі экземпляры Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека для дзяцей да пачатку новага навучальнага года паступяць у школы, частка тыражу будзе яшчэ раз прэзентавана 10 снежня гэтага года, калі ва ўсім свеце будзе святкавацца пяцідзесяцігоддзе Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

Мэта данага праекта — навучыць дзяцей разумець сур'ёзны дакумент і затым ажыццяўляць яго, паколькі, па словах Кофі Анана, правы чалавека — "лепшае, што ёсць у нас". Хочацца верыць, што для беларускіх дзяцей гэтае выданне стане больш, чым проста новая кніжка з яркімі малюнкамі.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# ВЕСТКІ З ВІЦЕБШЧЫНЫ

**Краязнаўцы і музейныя работнікі заснавалі Глыбоцкае краязнаўчае таварыства "Спадчына".**

**Як першы свой праект таварыства мяркуе рэалізаваць прызначаную на 30—31 кастрычніка гэтага года міжнародную навукова-практычную канферэнцыю з удзелам польскіх гісторыкаў. Сходы членаў "Спадчыны" будуць праходзіць штоквартальна. Кіраўніком таварыства абраны супрацоўнік Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея Алесь Хайноўскі.**

**Слухачы Народнага універсітэта, што працаваў у Віцебску пяць месяцаў, з лістапада па красавік, стварылі Таварыства філаматаў. Яно будзе часткай агульнабеларускага руху філаматаў, які ўзнік па ініцыятыве мінскага грамадскага навукова-аналітычнага цэнтра "Беларуская перспектыва".**

**Таварыства плануе працягваць пачатую летась "Беларускай перспектывай" асветніцкую дзейнасць. Мяркуецца адкрыць у адным з гарадоў Віцебшчыны народны універсітэт і ажыццявіць шэраг іншых адукацыйных праграм у Віцебску ды вобласці. Старшынёй віцебскага Таварыства філаматаў абраны настаўнік гісторыі Іван Каліноўскі.**

**Некалькі месяцаў таму ў Наваполацку быў створаны гістарычна-ваярскі клуб "Жалезны воўк". Хлопцы самі вырабляюць кальчугі, шчыты, мячы і іншыя прылады рыцараў, а затым праводзяць рыцарскія баі. Прадстаўнікі клуба ўжо двойчы выступалі на сцэне Полацкага дзяржаўнага універсітэта і мелі поспех. Напрыканцы лета сябры "Жалезнага ваўка" збіраюцца наведаць рыцарскі фестываль у Чэхіі і паказаць сваё майстэрства.**

**Віцебская гарадская рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны абвясціла пра камплектацыю да 1 кастрычніка новых груп дзяцей ад трох і болей гадоў у беларускую культурна-асветніцкую школу вольнага дня "Празоры". У 1997—98 навучальным годзе Таварыства праводзіла заняткі з дзецьмі па разумоваму і эстэтычнаму развіццю на аснове нацыянальных традыцыяў, ладзіла цікавыя сустрэчы, ранішнікі і вечарыны для адпачынку дзяцей і іх бацькоў. У наступным навучальным годзе "Празоры" будуць працягваць і пашыраць пачатае. Да супрацоўніцтва запрашаюцца ўсе зацікаўленыя.**

**Штогод з 1993 года Таварыства вольных літаратараў, штабкватэра якога знаходзіцца ў Полацку, вызначае лаўрэата сваёй літаратурнай прэміі "Гліняны Вялес". Сёлета глінянага стода Вялеса, паганскага апекуна мастацтва, атрымаў празаік Лявон Вашко. Ён аўтар трох кніг: "Еўрапейскія гісторыі" (зборнік апавяданняў), "Гістарызацыя свядомасці. Беларуская літаратура і беларушчына на пачатку XX стагоддзя" (літаратурная публіцыстыка), "Паэты-цары" (зборнік апавяданняў). Апошні твор і быў адзначаны прэміяй.**

**Юрась СЦЯПАНАЎ.**

РОДАМ З ЛАГОЙШЧЫНЫ

# ЯЎСТАФІЙ ТЫШКЕВІЧ



Яўстафій Тышкевіч — беларускі археолаг, гісторык, этнограф і краязнаўца, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі. Нарадзіўся 18 красавіка (6.IV па старому стылю) 1814 года і выхоўваўся да 16 гадоў у родавым памесці Лагойску Мінскай губерні.

У 1830—1831 гадах — вучоба ў Мінскай гімназіі. Пасля сканчэння яе ў тым жа годзе едзе на тры гады вучыцца ў Пецярбург. У 1834—1840 гадах служыць у канцылярыі віленскага, потым харкаўскага генерал-губернатара. З 1840 года — ганаровы апякун школ Барысаўскага павета. У 1843 годзе з мэтай археалагічных і гістарычных даследаванняў наведаў Данію, Фінляндыю і Швецыю.

У 1847 годзе Я. Тышкевіч быў запрошаны ў Мінск губернатарам А. Сямёнавым прыняць удзел у камісіі па збору і выданню старажытных актаў, грамат, прывілеяў XVI—XVIII стагоддзяў Мінскай губерні, якія былі выдадзены на рускай і польскай мовах у 1848 годзе. Пазней на аснове гэтых матэрыялаў польскі паэт У. Сыракомля (Людвік Кандратовіч) склаў "Мінскую хроніку". У ёй паведамляецца, што энергічны прагны да вайны і славы кіеўскі князь Уладзімір Манамах здзейсніў у 1078 годзе паход на Усяслава Полацкага і адпомсціў за свайго бацьку Усевалада.

Я. Тышкевіч наогул амаль усё сваё жыццё прысвяціў вывучэнню гісторыі роднага краю, археалогіі. Ён сумесна з братам Канстанцінам раскапаў і даследаваў толькі на Лагойшчыне і Міншчыне каля 200 курганоў, гарадзішчаў і замчышчаў, назваўшы іх "умацаванымі замкамі", "ахвяравальнымі гарадзішчамі", "акопнымі судзілішчамі", межавымі знакамі і курганамі-тумулюсамі. Браты-археолагі даследавалі і апісалі старажытнасці амаль усяго Паўночна-Заходняга ўзвышша Міншчыны. Яны прымянялі перадавую методыку даследаванняў і першымі звярнулі ўвагу на гарадзішчы як самастойныя віды археалагічных помнікаў.

Археалагічныя знаходкі Тышкевічаў і паклалі пачатак стварэнню ў 1842 годзе першага ў Беларусі гісторыка-археалагічнага музея ў сваім родавым памесці Лагойску.

Музей месціўся ў двухпавярховым палацы, пабудаваным у 1814—1818 гадах на высокім правым беразе Гайны. Прыгожы, у класічным стылі палац быў зруйнаваны ў час Вялікай Айчыннай вайны.

У 1848—1854 гадах Я. Тышкевіч — куратар Мінскай гімназіі. Вынікі сваіх васьмігадовых даследаванняў ён апублікаваў на польскай мове ў кнізе "Погляд на крыніцы мясцовай археалогіі, або Апісанне некаторых помнікаў старажытнасцяў у Заходніх губернях Рускай дзяржавы". У 1847 годзе ён выдаў на польскай мове вельмі каштоўную кнігу "Апісанне Барысаўскага павету" з прыкладзенай картай. У ёй аўтар падрабязна асвятліў пытанні статыстыкі, геагностыкі, гандлю, народнай медыцыны, звычаяў, песень, прымавак і г. д. У гэтай кнізе на 202 старонцы, аўтар першы расказаў пра сухапутныя шляхі Барысаўскага павета.

"Кніга "Апісанне Барысаўскага павету" з'явілася выдатнай падзеяй у этнаграфічнай літаратуры таго часу", — піша Я. Карскі ў кнізе "Беларусы". Я. Тышкевіч выступіў як гісторык, археолаг, географ і этнограф. Вялікае значэнне гэтай кнізе надаваў і рускі літаратуразнавец, этнограф і фалькларыст, акадэмік А. Пыпін, назваўшы яе адным з лепшых выданняў па польска-беларускай этнаграфіі.

Як жа склаўся лёс лагойскага музея Тышкевічаў? На базе яго экспанатаў браты-археолагі ў 1855 годзе стварылі музей старажытнасцей у Вільні. Ён размяшчаўся спачатку ў зале публічных пасяджэнняў Віленскага універсітэта і быў адкрыты для наведвальнікаў два разы ў тыдзень. Складалася экспазіцыя з сямі вялікіх раздзелаў і ў 1865 годзе мела 66 тысяч экспанатаў. Пры музеі была створана Археалагічная камісія, старшынёй якой быў Я. Тышкевіч. Працы Археалагічнай камісіі выдаваліся асобнымі зборнікамі, дзе друкаваліся розныя а[illegible] рукапісы, помнікі пісьмен[illegible], даваліся апісанні айчынных [illegible]омнікаў архітэктуры: замкаў, храмаў, палацаў.

Пасля падаўлення студзеньскага паўстання 1863 года і загаду віленскага гу[illegible]атара Мураўёва "рэвізава[illegible] музей, Яўстафій Тышкевіч склаў з сябе абавязкі апекуна над ім і паехаў жыць у літоўскі горад Біржэ (Біржай).

Што ў сапраўднасці азначала такая "рэвізія", відаць з аднаго тагачаснага выдання "Вестника Западной России": з музея было вывезена ў Пецярбург каля 800 найкаштоўных экспанатаў, у тым ліку скульптурная група з белага мармуру "Ядвіга і Ягайла" гродзенскага скульптара Аскара Сасноўскага, а таксама барэльефы скульптара Рафала Слізеня, аўтапартрэт Яна Рустэма, шматлікія творы "тышкевічыяны", 56 партрэтаў-эстампаў польскіх каралёў, 160 партрэтаў прыватных асоб, 93 гравюры з абразоў, 203 карціны на гістарычныя сюжэты, цэхавы сцяг Вільні, зброя і амуніцыя эпохі Айчыннай вайны 1812 года і шмат іншых рэчаў.

Сведчаннем вялікіх навуковых заслуг Я. Тышкевіча з'яўляецца выбранне яго ганаровым і правадзейным членам шматлікіх навуковых айчынных і замежных таварыстваў. Я. Тышкевіч склаў генеалагічную табліцу ўсяго роду Тышкевічаў.

Яўстафій Тышкевіч памёр на 60-м годзе жыцця 8 верасня (27 жніўня) 1873 года і пахаваны на могілках Роса ў Вільні. Ён унёс вялікі ўклад у развіццё гісторыі, археалогіі і культуры Беларусі.

**Савелій АКУЛІЧ.**

## 1998-мы — ГОД Адама МІЦКЕВІЧА









**Добры падарунак філатэлістам падрыхтаваў выдавецкі цэнтр "Марка" аб'яднання "Белпошта" да 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Ім выпушчана марка з партрэтам паэта, спецыяльны канверт і паштовая картка для картмаксімума. А спецыяльнае гашэнне праводзілася 20 мая ў Мінску, і будзе праводзіцца 12 верасня на радзіме паэта ў Навагрудку.**

**НА ЗДЫМКАХ: паштовая марка, прысвечаная А. Міцкевічу; спецыяльны канверт са штэмпелем спецгашэння.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

# ШЭСЦЬ ГЕНЕРАЛАЎ З РОДУ ГУРКАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

нюю стадыю. І ў ёй самы актыўны ўдзел прынялі войскі генерала Гурко.

Асабліва яны вызначыліся, утрымліваючы ў суровых зімовых умовах Шыпкінскі перавал на Балканах, адбіваючы атакі турэцкай арміі, якая спяшалася дэблакіраваць з поўдня асаджаную Плеўну.

У снежні 1877 года на чале 70-тысячнай арміі Гурко зноў перайшоў Балканы, якія лічыліся зімою непрыступнымі, уступіў у Сафію, разбіў турак, заняў Антыянопаль. Неўзабаве турэцкія войскі былі разбіты. Пяцівяковае турэцкае ярмо было скінута з балгарскага народа, яго вызваленне здзейснілася.

Пасля славутых перамог над магутнай у той час Турэцкай дзяржавай, Іосіф Гурко быў губернатарам Пецярбурга, Адэсы, Прывіленскага краю і Варшавы, камандуючым Варшаўскай акругай. У 1894 годзе пайшоў у адстаўку.

Славутую ваенную дынас[illegible] Гуркаў прадоўжылі і сыны [illegible]я руска-турэцкай вайны І[illegible]фа Уладзіміравіча. Адзін з іх Уладзімір Іосіфавіч (1863—1931 гады) быў у час грамадзянскай вайны удзельнікам белага руху на поўдні Расіі. Потым э[illegible]грыраваў за мяжу, дзе і памёр.

Другі — Васіль Іосіфавіч (1864—1937 гады), генерал ад кавалерыі, скончыў Акадэмію Генштаба, быў удзельнікам англа-бурскай вайны (1899—1902 гады) на баку бураў, руска-японскай і першай сусветнай. У апошняй камандаваў 5-й арміяй Паўночнага фронту і Асобай арміяй Паўднёва-Заходняга фронту. Зняты з пасады Часовым урадам, высланы за мяжу, дзе напісаў кнігу ўспамінаў.

Выбраў ваенную кар'еру, стаў генералам і ўнук Іосіфа Уладзіміравіча Дзмітрый. У першую сусветную вайну камандаваў гусарскім палком, быў начальнікам штаба корпуса, потым дывізіі. Актыўна ўдзельнічаў у белым руху ў час грамадзянскай вайны. Памёр у эміграцыі.

Вось якая славутая дынастыя буйных военачальнікаў пайшла з нашай беларускай зямлі.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

СПАДЧЫНА



**Ткацкаму майстэрству ў віцебскай сярэдняй школе № 20 дзятву абучае Соф'я БЕЛЬСКАЯ. Яе вучні сталі ўдзельнікамі многіх раённых, гарадскіх і абласных выставак.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.**



**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».**
**(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).**
**Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 1269.**
**Падпісана да друку 13. 07. 1998 г. у 12.00.**
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**